# ВЯЛЕЙСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

Дарогай сьмерці завецца дарога зь Менску на Ігумен (Чэрвень), пад якім бальшавіцкія карнікі расстралялі ў першыя дні нямецка-савецкай вайны вязьняў менскіх турмаў. Такая самая Дарога сьмерці пралягла зь Вялейкі на Барысаў. Вязьні ішлі пяць дзён з 24 да 28 чэрвеня, дарога засталася засьцеленая трупамі. Яны знайшлі свой спачын ля муроў вялейскай турмы, у вялейскіх, лагойскіх, барысаўскіх лясах. Сьмерць сеялі не нямецкія кулямёты, а расейскія наганы. Пра вялейскую трагедыю — наш сёньняшні нумар. Працяг на староны 6


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №25 (182) 19 ЧЭРВЕНЯ 2000 г.


# «БЕЛАРУСЫ ЎСЁ РАШАЮЦЬ У АПОШНЮЮ ГАДЗІНУ»

## Ісьці ці ня йсьці на выбары?

*Беларуская апазыцыя вырашыла ня йсьці на восеньскія выбары парлямэнту і чакае, пакуль Лукашэнка сам пойдзе ёй насустрач. Але ці ўсё вырашаюць палітыкі? Людзі культуры дзеляцца з намі сваімі развагамі наконт удзелу ў восеньскіх выбарах, уяўляюць сябе ў ролі лідэраў палітычнай апазыцыі ды спрабуюць свае сілы ў палітычным прагназаваньні: на які адсотак выбарцаў могуць разьлічваць дэмакратычныя сілы, калі ўсё-ткі дойдуць да выбарчых участкаў.*

Зьміцер Колас, перакладчык:

### Мусова пайсьці

Апазыцыя мусіць пайсьці на выбары, бо без прысутнасьці на рэальнай палітычнай сцэне мы ніколі нічога не дасягнем. Як можна прыйсьці да ўлады, нічога ня робячы? На сёньняшнім этапе апазыцыя павінна ствараць максымальныя магчымасьці для прапаганды сваёй праграмы: насельніцтва абсалютна ня ведае, чаго апазыцыя хоча. Безумоўна, лягчэй за ўсё наракаць на кантроль улады над сродкамі масавай інфармацыі. Вядома, калі адпаведныя ўмовы ня будуць створаныя, цалкам верагодна, што апазыцыя ня зойме ў парлямэнце ніводнага крэсла, нават калі й возьме ўдзел у выбарах. Бо ў нашых партыях шмат нармальных, здаровых людзей, але яны не палітыкі. Той самы Вячорка — цудоўны хлопец, выдатны спэцыяліст у сваёй галіне, але ці стаў бы сапраўдны палітык прылюдна спальваць дамову аб аб'яднаньні з Расеяй? Трэба ясна ўсьведамляць сытуацыю, што існуе ў краіне.

Не выкарыстоўваецца і дапамога прафэсіяналаў. Згадаем 1993 год, калі Пазьняк адмовіўся ад практычна дармовай дапамогі палітолягаў, якія б маглі забясьпечыць яму рэальную перамогу на прэзыдэнцкіх выбарах. Тыя людзі ў Ангельшчыне, калі, здавалася, народ стаміўся ўжо ад Жалезнае Лэдзі і ўсе прарочылі перамогу лейбарыстам, зрабілі так, каб торы сталі пры ўладзе яшчэ на адзін тэрмін, у вонкава безнадзейных умовах. Тыя прафэсіяналы, для якіх палітыка — гэта спорт, браліся ўдзельнічаць і ў падрыхтоўцы прэзыдэнцкіх выбараў у Літве, але ў нашых суседзяў таксама перамагла местачковасьць, і да ўлады прыйшоў былы камуніст Бразаўскас.

У свой час нацыянальная плыня ў апазыцыі зрабіла яшчэ адну вялікую памылку, адмовіўшыся ад супрацоўніцтва з былымі партфункцыянэрамі кшталту Краўчанкі ці Бутэвіча. Але ж гэта людзі, якія прайшлі ў свой час па ўсіх камсамольска-партыйных лесьвіцах і ведалі, што і як трэба рабіць дзеля дасягненьня палітычнае перамогі. Калісьці на вайсковай катэдры ў інстытуце мы вывучалі прадмет «спэцпрапаганда», дзе вучылі, як давесьці ворагу сваю рацыю. Калі падысьці да гэтае справы з розумам, перакапаць праціўніка ў сваёй перавазе зусім ня цяжка. Тым больш, што народ наш — зусім ня вораг апазыцыі, трэба толькі данесьці да яго сваю праўду.

Адам Глёбус, літаратар і выдавец:

### Больш фантазіі

Асабіста я ні на якія выбары не пайду — такая мая пазыцыя. Але калі ты назваўся палітыкам, ты мусіш удзельнічаць у палітычным жыцьці пры любых умовах. Якім чынам браць удзел у выбарах, якую тактыку ці стратэгію абраць — гэта іншае пытаньне. А так гэта ўсё выглядае на дзіцячыя гульні ў пясочку.

На маю думку, адной з моцных хібаў апазыцыі ёсьць няўлічваньне ўсходняга вэктару. Усе нашыя посьпехі на Захадзе маюць аднабаковы характар, і ўлада выкарыстоўвае гэта. Чаму б не навязаць кантакты з расейскім «Мядзьведзем» ці «Яблыкам»? Нашыя «яблыкаўцы» — гэта людзі, ня вартыя ўвагі. Як можа называцца дэмакратам той самы Фядута, пры якім выходзілі газэты зь белымі палосамі?

Яшчэ адным крокам апазыцыі мусіць стаць зьмена палітычнай рыторыкі, лексыкі. Прыкладам, замест выразу «незалежныя сродкі масавай інфармацыі» пісаць «прагрэсіўныя». Улады сваімі дзеяньнямі ўжо стварылі свой рэальны вобраз, апазыцыя ж ні ў якім выпадку ня мусіць пазбаўляцца свайго рамантызму: менавіта ён малюе пэрспэктывы жыцьця. Няхай сабе будзе дасягнута толькі 50% ад заплянаванага.

Недапрацоўкай я лічу і ігнараваньне левых сілаў у апазыцыі.

Працяг на староны 3



# Разьвітаньне Маркеса

***Вядомы беларускі перакладчык Карлас Шэрман атрымаў разьвітальны ліст Габрыэля Гарсія Маркеса. Аўтар славутых раманаў «Восень патрыярха» і «Сто гадоў адзіноты» фатальна хворы, ён прадчувае блізкую сьмерць. Эх, калі б яшчэ хоць трошкі жыцьця, хоць жменьку... Дзеля чаго? Што можа альбо мусіць зрабіць або зьмяніць у сабе ці сьвеце чалавек, калі б раптам яму перапала тая жменька? Пра гэта і піша Маркес, зьвяртаючыся да Бога.***



Габрыэль Гарсія Маркес

# МАРЫЯНЭТКА

*Калі б Пан Бог не зважаў,*
*Што я сёньня нібыта марыянэтка,*
*Выхітраная з анучаў,*
*Дый дараваў бы мне*
*Яшчэ хоць жменьку жыцьця,*
*Я б усё роўна ня выказаўся дарэшты,*
*Але ўсё ж перадумаў бы тое,*
*Што і зараз кажу.*

*Я б ацэньваў рэчы і зьявішчы*
*Не па вартасьці, а па значнасьці.*

*Меней бы спаў я, а болей мроіў,*
*Бо ад кожнай хвіліны*
*З заплюшчанымі вачыма*
*Мы страчваем*
*Шэсьцьдзесят імгненьняў сьвятла.*

*Я б ішоў, калі ўсе спыняюцца,*
*Прачынаўся б, калі людзтва сьпіць.*

*Я слухаў бы ўсіх і кожнага*
*Ды смакаваў*
*Марозіва шакаляднае.*

*Калі б Пан Бог дараваў мне*
*Яшчэ хоць жменьку жыцьця,*
*Я б апранаўся сьціпла*
*Ды пад сонейкам*
*Выпростваўся б душою.*

*Божухна,*
*Калі б яшчэ крыху пагрукала*
*Сэрца маё,*
*Я б накрэсьліў на ільдзіне*
*Словы нянавісьці*
*Ды дачакаўся б*
*Усходу сонца,*
*Каб таяла яна.*

*Разам з Ван Гогам*
*Я б маляваў вершы Бэнэдэці*
*На зорках,*
*А песьні Сэрата*
*Склалі б маю сэрэнаду*
*Поўні.*

*Я б сьлязіны мае дарыў ружам,*
*Адчуў бы спрадвечны боль*
*шыпоў*
*Ды пацалункі пялёсткаў.*
*Божухна... калі б я меў*
*Яшчэ хоць жменьку жыцьця...*
*Не прапусьціў бы і хвілі,*
*Каб шапнуць усім,*
*Што я люблю,*
*Што я кахаю Яе.*

*Я б упэўніў пахаджанаў,*
*Што яны мае блізкія,*
*І я іх таксама люблю.*

*Я б даказаў мужчынам,*
*Што яны памыляюцца,*
*Калі думаюць, што перасталі*
*кахаць*
*Ад старасьці:*
*Яны старэюць якраз таму,*
*Што перастаюць кахаць.*

*Дзецям*
*Я даў бы крылы,*
*Але даверў бы, што лётаць*
*Яны мусяць вучыцца самі.*
*Старым падказаў бы я,*
*Што сьмерць ідзе ўсьлед*
*Не за старасьцю,*
*А за глухім забыцьцём.*

*Я ж навучыўся ўсяму*
*Ад вас...*

*Я зьведаў,*
*Што ўвесь белы сьвет*
*Імкнецца жыць на вяршыні,*
*Хоць шчасьце ў тым,*
*Як ты дзярэсься ўгору.*

*Я спазнаў,*
*Што калі немаўля ўпершыню*
*Сьціскае бацькоўскі палец,*
*Трымацьме яго назаўсягды.*

*Я ўсьвядоміў,*
*Што чалавек мае права*
*Глядзець зьверху*
*Толькі на таго,*
*Каму дапамагае падняцца.*

*Гэтак шмат*
*Я зьведаў ад вас,*
*Але зрэшты гэта ўсё драбяза,*
*Бо зацікну я*
*Ў драўлянай валізцы,*
*І, на няшчасьце маё,*
*Адыйду.*

**Пераклаў з гішпанскай у смутку Карлас Шэрман**

тыдзень нашага жыцьця

# ТАНЦЫ НА ДАХУ

Самай нечаканай падзеяй палітычнага тыдня стала добраахвотная адстаўка шэрага кардынала лукашэнкаўскай законатворчасьці, кіраўніка ягонага ГПУ, дзяржаўна-прававое ўправы, Аляксандра Пласкавіцкага. У інтэрвію журналістам Пласкавіцкі заявіў, што «дзеля шэрагу прычынаў немагчыма было вынікова працаваць». А таксама: «У тым выглядзе, у якім ён цяпер існуе, дзяржапарат ад гары да нізу ўпёрся ў ліміт сваіх магчымасьцяў». Сыход Пласкавіцкага быў па-ўрадніцку карцінны: ён напісаў заяву на звальненьне, яшчэ месяц перакантаваўся ў Чырвоным доме, тады пайшоў зусім і даў інтэрвію «Белорусской Деловой Газете» – максымальна карэктнае і прытым надзвычай халоднае і дзелавое, як для беларускіх традыцыяў патэтыкі і кляцьвеннасьці. Сышоў Пласкавіцкі, як робіцца ясна зь ягоных выказваньняў, бо ў адміністрацыі немагчыма было плённа працаваць і бо мала зараблялася. Як Пласкавіцкі сышоў, у яго забралі й дзяржаўную кватэру, да якой ён быў прыпісаны на час працы. Цяпер Пласкавіцкі «ня мае сталага месца жыхарства». Што называецца, «служы пану верне, ён табе перне». Але бяз працы ён наўрад ці застанецца. Бо «гатовы шукаць сабе месца чалядніка ў людзей, што жадаюць мець нейкія канкрэтныя вынікі».

Гэты сыход супаў зьператрусам у адміністрацыі Лукашэнкі: замест Русакевіча за ідэалёгію зноў будзе адказваць Замяталін. Ілюзіяў тутака ні ў кога няма. Затое прэс-сакратаром Лукашэнка ўзяў сабе маладога й харошага Барысевіча з МЗС. Кіраўнік лукашэнкаўскай адміністрацыі Мясьнікові сустрэўся тымчасам з прэсай, каб пазначыць новыя прыярытэты разьвіцьця краіны. БЕЛТА скончыла сваё паведамленьне пра сустрэчу так: «Адказваючы на пытаньне аб стварэньні саюзу Беларусі й Расеі, ён заявіў, што сувэрэнітэт і незалежнасьць Беларусі не падлягаюць абмеркаваньню. Яны будуць захаваныя ў поўнай меры». Хто і што, праўда, разумее пад незалежнасьцю, няясна. Цікава, што Лукашэнка штолета ад 95-га году робіць больш ці менш выразныя рэвэрансы незалежніцтву. То па-беларуску выступіць, то надрукуе інтэрвію са згадкамі пра Сапегу, то зь пісьменьнікамі сустрэнецца, то дазволіць захаваць Беларускі ліцэй, то намякне, то паклянецца. Мабыць любоў да Радзімы мае сваё кліматычнае адценьне – надта Менск улетку зялёны, надта ён узімку паскудны й шэры.

Працяг на старонцы 5

з усёй краіны

## І ў Пінску — лядовы палац

Будаваць лядовы палац вырашылі на паседжаньні рады дырэктараў Нацыянальнага банку Беларусі ў рамках рэканструкцыі банкаўскага каледжу ў Пінску. Плянуецца, што лядовы палац стане часткай вялікага спарткомплексу, які пабудуе Нацбанк на базе каледжу. Ужо вызначанае месца будоўлі — плянуецца зьнесьці частку дамоў на набярэжнай Піны ў гістарычным цэнтры гораду. На стварэньне праекту пойдзе, кажуць, недзе з год, будоўля зойме яшчэ два гады.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Хлебны бунт у Клімавічах

212 жыхароў Клімавічаў на пачатку чэрвеня падпісалі зварот да старшыні Магілёўскага аблвыканкаму М.Дражына з прашэньнем «вырашыць пытаньне аб зніжэньні цэнаў на хлеб і булкі» ў Клімавіцкім раёне. Бо сапраўды, чаму амаль усё ў крамах Клімавічаў даражэйшае, чым у суседніх раёнах? Мы што, багацейшыя? Ці мо хто лічыць, што кожны клімавец мае кран зь мяцовай вінакурні і з таго — шалёныя грошы? «У Магілёве хлеб таньнейшы на 40%, у Менску — на 50%, у суседнім Крычаве — на 35%», — пішуць жыхары Клімавічаў. Ды пры тым якасьць таго хлебчыка абы-якая. У каго ёсьць магчымасьць, набывае хлеб у Крычаве, Магілёве, Горках, Амсьціславе. Дарэчы, у апошні горад муку завозяць быццам бы з Клімавіцкага камбінату хлебапрадуктаў. І тым большае неўразуменьне выклікала тлумачэньне эканаміста хлебазаводу на мясцовым радыё: маўляў, большы кошт хлеба выкліканы вялікімі энэргавыдаткамі на заводзе. Ці дастаўка мукі за 70 км у Мсьціслаў робіць выдаткі ніжэйшымі?

**М.Шпакаў, Клімавічы**

## Падножны корм мсьціслаўцаў

Кожны бачыў жывёлу, якая пасьвіцца на лузе. Ходзяць сабе кароўкі, шчыплюць пыльную траўку, цешацца сонейкам... Жыхарам усходняй Магілёўшчыны таксама дазваляюць карміць сябе «падножным» кормам. Ахвотныя да бульбы ды цыбулі мсьціслаўцы, напрыклад, могуць атрымаць дзялачку зямлі ў горадзе ці за яго межамі для задавальненьня сваіх фізіялягічных патрэбаў (натаеньня голаду). На сёньня супольная плошча толькі тых сельгаснадзелаў, што знаходзяцца на тэрыторыі гораду, складае 172 гектары. Значыць, пераважная большасьць мсьціслаўцаў харчам забясьпечваюць сябе самі.

## Касіў Ясь край гасьцінца

Стала ўжо добрай традыцыяй кожнае лета ганяць работнікаў усіх прадпрыемстваў і ўстановаў Чэрыкава і іншых гарадоў усходу Магілёўшчыны з косамі ў руках на лугі і ўзбочыны дарог. Робіцца гэта з мэтай «аказаньня пэўнай дапамогі вяскоўцам», а таксама на дабро саміх жыхароў гарадоў. Мяркуйце самі, гараджане, што за зіму наседзеліся за сталамі й камputарамі, настаяліся за станкамі й канвэерамі, намахаліся дубіналамі і апэрацыйнымі скальпэлямі, зараз зноў могуць развалёхацца, памахаць косамі і грабелькамі. Спэцрашэньнем Чэрыкаўскага райвыканкаму «да кожнай арганізацыі, установы, прадпрыемства раёну даведзена канкрэтнае заданьне па нарыхтоўцы корму для грамадзкай жывёлагадоўлі з разьліку 100 кг сена альбо 400 кг зялёнай масы на аднаго працуючага».

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## Берасьцейшчына самая матарызаваная

Па колькасьці аўтатранспарту сярод вобласьцяў Беларусі лідэрам Берасьцейшчына. На пачатак году там было 360 тысяч машын і матацыклетаў, а ў Менску — 298 тыс. Праўда, калі на Берасьцейшчыне шмат матацыклетаў, дык аўтамабіляў усё ж найбольш у менчукоў (19,2% ад агулу ў Беларусі), далей па машынах ідзе Берасьцейская вобласьць (16,1%), пасьля Меншчына й Гомельшчына (па 13,8%), Віцебшчына (13,5%), найменшая па колькасьці жыхароў вобласьць Беларусі, Гарадзенская — 12,7% і заўжды адстаючая Магілёўшчына (10,9%).

**БАРС**

## Тралейбусам да Рыгі

Беларускі завод «Белкамунмаш» перамог у тэндэры на пастаўку ў Рыгу 10 падвойных тралейбусаў. У тэндэры таксама бралі ўдзел кампаніі з Чэхіі, Польшчы й Расеі. Але нашы «тралікі» аказаліся найтаньнейшыя.

## Тэлефон падаражэў на 15%

Цяпер міжгародная размова па Беларусі каштуе 9,4 рублі за хвіліну, па горадзе з хатняга тэлефону — 1,72 рублі. Кошт тэлефоннай магнітнай карткі на 120 хвілін вырас да 765 рублёў. За хвіліну размовы па мабільным тэлефоне цяпер трэ будзе плаціць 76 рублёў.

Між тым падлічылі, што ўсяго за першы тыдзень цэны ў краіне вырасьлі на 3,2%. Значыць неўзабаве даляр, што ўжо доўга трымаецца, скокне. З пачатку ж 2000 году спажывецкія цэны ў Беларусі ўзраслі на 49,6%. Летась за той самы час цэны ўзрасьлі на 79,5% (у тым за першы тыдзень чэрвеня — на 3,3%).

**Б.Т.**

пазытывы

## Над Бугам і над Сьвіслаччу

***Заходняя Беларусь. Берасьце. Аблвыканкам. 16 чэрвеня 2000 году. 8-я раніцы.***

Перад уваходам аўтамабілі сялянаў і дыпляматаў, буйных чыноўнікаў і капіталістаў. На ганку вельмі прыстойныя міліцыянты (без камуфляжу). Лётаюць карэспандэнты зь мікрафонамі і тэлекамэрамі.

А дзеля чаго ўсё гэна? Ды проста на замену рамантычнаму трызьненьню наконт таго, хто ўратуе, накорміць і г.д., прыйшло прагматычнае імкненьне зарабляць грошы на вытворчасьці і продажу прадуктаў харчаваньня.

Апантаныя ідэяй даходу грамадзяне суседніх эўрапейскіх краінаў зьехаліся (за свой кошт), панапрывозілі сваёй прадукцыі і рэклямы, актыўна папрацавалі. Спонсараў і грантасосаў не назіралася. Патэнцыйныя інвэстары і партнэры па камэрцыі вялі гаворку пра канкрэтныя пытаньні. Прынялі адозву (па-польску і беларуску) да грамадзянаў, установаў і урадаў Польшчы і Беларусі, каб спрыялі добрай справе.

Потым смачна пад'елі і, адпачыўшы, паехалі сабе працаваць далей, дамовіўшыся наступны раз сустрэцца ў Белай Падляскай.

***Тым часам над Сьвіслаччу***

Міністар замежных справаў Урал Латыпаў паведаміў, што мы займаем сьціплае месца ў другой сотні сусьветнага рэйтынгу інвэстыцыйных магчымасьцяў. Агульны аб'ём замежных інвэстыцыяў у нашу эканоміку вагаецца каля 60 USD на чалавека. Меней нават у СНГ ніхто не атрымлівае.

Стала вядома, што 70 000 беларусаў працуе ў сумесных з замежнікамі (СП) альбо цалкам замежных прадпрыемствах (ЗП). На жаль, міністар не адзначыў, ці моцна пакутуюць нашыя браты, якія патрапілі ў пастку сусьветнай капіталістычнай эксплюатацыі ў параўнаньні з вольнымі калгасьнікамі.

Ува ўсякім разе, прыкутыя да калясьніцы імпэрыялістычнага Малоха землякі, колькасьць якіх складае 1,5% занятых ў нацыянальнай эканоміцы, вырабілі амаль дзясятую частку ВНП і экспартнай прадукцыі. Небаракі працуюць такім чынам у сем разоў болей за сярэдняга гегемона, а атрымлізаюць яны толькі ў тры-чатыры разы болей.

Дарма, здаецца, спасылаўся міністар на палітычныя непаразуменьні і 250 блытаных законаў пра СП і ЗП, прынятых нашымі стаханаўцамі-дэпутатамі. Ёсьць глыбейшыя прычыны, зь якіх 95% замежных торбаў з грашыма баяцца сінявокай рэспублікі-партызанкі.

У інтэрвію БТ Галоўны Начальнік сп.Латыпава сказаў: «Мы свае прадпрыемствы не прадаем нават сябрам».

А як на маю думку, дык беларускую формулу супрацоўніцтва выдумляць ня трэба: «Жывіце сабе, як браты, але рахуйцеся, як жыды».

**Міхал Залескі**

***P.S.*** *Для супрацоўнікаў органаў па барацьбе з прэсай. Гэтая прымаўка не накіраваная на распальваньне міжнацыянальнай варожасьці, адно падкрэсьлівае схільнасьць габрэяў да матэматыкі і эканомікі, павагу беларускага народу да вялікага габрэйскага народу і непрыналежнасьць аўтара да сіяністкіх і антысэміцкіх узброеных фармаваньняў.*

лісты ў рэдакцыю

## «Сказ пра Лысую гару» з КГБ*

*У другой палове 70-х, калі я маладым спэцыялістам працаваў на менскім заводзе імя Арджанікідзэ, у наш канструктарскі аддзел прыйшоў такі ж малады спэцыяліст, як я, але з МРТІ — Аляксей П-еў. Да мозгу касьцей кар'ерны хлопец: яго бацька быў нейкім там начальнікам у аддзеле кадраў КГБ, і Аляксей на ўсе 100% адпрацоўваў магчымасьць пасьпець увайсьці ў «залатое кола» намэнклятуры. Камітэт камсамолу заводу (аб'яднаньня) — ЛКСМБ — партыя...*

*Але гэта асобная гісторыя. Я ж хачу засьведчыць, што праз памянёнага хлопца мы, шараговыя савецкія інжынэры, здолелі пазнаёміцца і з той «Лысай гарой», і з «Майстрам і Маргарытай», і з Салжаніцыным, і нават зь нейкім (быццам бы індыйскім) сэкс-бэстсэлерам, што тады было о-ё-ё-й!..*

*Пры гэтым Аляксей нам напрамую казаў, што літаратуру ён пазычаў у добрых людзей «адтуль» (ЦК КПБ, КГБ)...*

**Алесь Катлянік, Менск**

**Водгук на тэму нумару ў «НН» №23.*

## Беларускі калярыт у расейскай мове

*Падтрымліваю ідэю пасьмяяцца з «рэфэрэндумак». Зьяўляюцца яны, калі імкненьне арыгінальна паведаміць пра тавар, краму ці паслугу ды інш. спалучаецца зь вялікай самаўпэўненасьцю і значна меншым веданьнем мовы. Атрымліваецца рэкляма наадварот — брык-рэкляма.*

*Каб даслаць Вам адзін зь яе прыкладаў, давялося набыць* ***варенье из яблок «Ласунок»****. Хто спрабаваў кансэрвы Чырвонаслабодзкага камбінату, зразумее, што было ў невялічкім, на шчасьце, слоічку.*

*На ваўкавыскі сьвіны тлушч толькі падзівілася — не спажываем. Ды даведалася з абгорткі, што вырабляюць гэты харч на* ***вул. Акцябарскай,*** *15.*

*Калі ласка — капэрта, у якой Вы атрымалі мой ліст. Каля беларускага «куды-каму» — малюнак са словамі* ***«ХВ Пасха»****.*

*ОАО* ***«Руденск»*** *вырабляе* ***«обувной крем «Світанак»****.*

*А ў Менску на вуліцы Казлова ёсьць* ***фирменный магазин «Стужка»****.*

*Недалёка ад яго, на Камароўцы, нейкі максымаліст павесіў на сваім шапіку шыльду* ***«Гандлёвая крама»****.*

*Тое-сёе зь беларускай мовы памятаюць і серабранскія гандляры — у краме* ***«Прыпутнік»****. Аўтар кульгавага слоўца шукаў лягічную назву свайму ўнівэрсаму, які месьціцца каля Ўсходняга аўтавакзалу. Аднак ня здолеў успомніць да канца слова «трыпутнік» — іншае найменьне вядомай расьліны падарожніка. Але ж усе шматлікія «інстанцыі» зарэгістравалі АТ* ***«Прыпутнік»****. А часопіс «Гермес» Міністэрства гандлю дадаў інтрыгі, пераклаўшы нэалягізм на расейскую мову —* ***припутник****.*

*Дарэчы, яшчэ часопіс — толькі дзіцячы. «Познайка». Яго рэклямуюць у панядзелкавых «Калыханках» на БТ. Вядучыя перадачы гутараць з* ***Познайкой****-мульцяшкам і стваральнікамі часопісу па-беларуску, а тыя ўпарта адказваюць па-расейску. Нават малое дзіця, паслухаўшы гэта, пытаецца, чаму* ***Познайка*** *ўсё ведае, а беларускія словы — не. Каб жа хутчэй такое «дабро» ў нас зьвялося!*

**Валянціна Рашэтнік, Менск**

## Бульба-таўканічка

*50-я гады. Савецка-беларуская правінцыя. Ворша. Ужо тады вясковая беларускасьць разьбівалася аб новабэтонную расейскую савецкасьць. Наіўныя беларусы хаваліся на гарадзкіх звалках ці ўцякалі назад ад кожнага выбуху агрэсіі ці проста незадаволенасьці з боку ўсялякага кшталту старшыняў, кіраўнікоў і іншых «адукаваных» людзей. А нездаволеныя яны былі часьцяком, і асабліва прастатой і вясковай натуральнасьцю. Ці, у залежнасьці ад дрэннага настрою, «вульгарнай інтанацыяй» беларускай мовы. Ці негарадзкой выпраўкай наведнікаў у мірыяды кабінэтаў у пошуках паперак, даведак, у пошуках паратунку. Вось тады і нарадзілася канчаткова трасянка — савецкая пачвара, якая пачала выскокваць зь беларускіх целаў, парушаных і абвапопаных савецкімі экспэрыментамі.*

*Так аднойчы Вольга, беларуская дзяўчына з далёкай вёскі, прыдыбала да сваёй савецкай сястры пагасьцяваць, зрабіць патрэбную куплю, аддаць паўнюткія вясковымі харчамі торбы. Настасься, ейная сястра, ужо два гады як вучылася на настаўніцу, і таму розьніца ў манерах была надзвычай відавочнай. Настасься не магла ўявіць сабе, як можна было вярнуцца жыць у вёску пасьля гораду з душам, зялёна-бутэльным кефірам і квіткамі ў кіно. Вольга таксама не разумела, як можна было штодзень цешыцца на брудных велічных вуліцах, убівацца ў паўнюткія аўтобусы, стаць у чарзе па харчы, піць «нясмачнае і перагоннае» малако. Родныя сёстры, напэўна, інтуітыўна здагадваліся аб разьбеглых за апошнія два гады шляхах, аднак яны былі сёстрамі, таму любілі і паважалі адна адну.*

*Аднойчы ўдзень Настасься павяла Вольгу ў сталоўку, каб паказаць чыстую і камфортную залю з сурвэткамі і ўтульнымі крэсламі, ну і каб, канечне, пачаставаць сястру гарадзкімі стравамі. У душы Настасься баялася гучнай беларускай гаворкі сястры, ад чаго навакольныя гараджане, якія кагадзе замянілі лапці на чаравікі, напэўна, будуць сьмяяцца.*

*Сеўшы за стол, Настасься ўтэркнула ў рукі Вольгі мэню, але сама выбрала сястры пажыву на свой густ — «давай паямо пюрэ» — і хутка скакнула вачыма за суседзкі стол, дзе сьнедалі прыемныя мальцы. Яна ўсё стракатала, толькі каб сястрыца не разявіла мялкі і не напужала далікатных мальцаў, усё пераказвала ёй сваё гарадзкое жыцьцё. Але Вольга ўсё ж знайшла момант, каб падзяліцца сваім расчараваньнем:*

*— Якое ж гэта пярэ, гэта ж бульба тоўчаная!*

*— Якая розьніца! Ямо! — толькі і адказала Настасься, разззлаваная ад сораму, ад наіўнасьці сястры, якая ў дадатак спудзіла мальцаў за суседзкім столікам, якія ўжо былі заўважылі зграбнае дзяўчо ў блакітнай паркалёвай сукенцы.*

*Расчараваная ж Вольга, якая ўяўляла сабе «пярэ» як невядомую і дужа смачную страву, ціха варушыла відэльцам вадзяністую таўканіцу.*

**Уладзіслаў Гарбацкі, Віцебск**



# «БЕЛАРУСЫ ЎСЁ РАШАЮЦЬ У АПОШНЮЮ ГАДЗІНУ»

## *Ісьці ці ня йсьці на выбары?*

*Працяг са старонкі 1*

Я маю на ўвазе не Калякіна ды іншых — гэта ўжо мінулае, а ў першую чаргу моладзі, якая верыць у сацыялізм як справядлівую мадэль грамадзтва. Тыя ж «Навінкі» — левая газэта, і яны маюць вялікія пэрспэктывы. У Каталёніі, да прыкладу, існуе найшчыльнейшая повязь паміж нацыяналізмам і сацыялістычнымі ідэямі. Тут не вядзецца, праўда, пра баскаў ці ісламскіх фундамэнталістаў: мы ня горная краіна.

А на пытаньне, які адсотак набярэ апазыцыя на парлямэнцкіх выбарах, калі ўсё ж возьме ў іх удзел, я адказаць не магу: я ж ня Глоба, я — Глебус.

**Галіна Дубянецкая, паэтка:**

### Нічога ня знаю

Для мяне галоўнае, каб палітыкі не заміналі жыць людзям. Гэта як пры добрым мастацтве: як мастак таленавіты, ягоных высілкаў па стварэньні карціны не заўважаюць. Калі палітыкаў не чуваць, значыць, людзям жывецца вельмі няблага. Ці будзе ў апазыцыі посьпех на выбарах? Калі яна захоча гэтага, дык будзе, калі ж не...

**Юры Хашчавацкі, кінарэжысэр:**

### Удзельнічаць, калі дазволяць

Апазыцыя можа ўзяць удзел у выбарах толькі на тых умовах, якія яна зараз вылучае. Гэта адкрыцьцё сродкаў масавай інфармацыі для ўсіх палітычных сілаў за паўгады да даты прызначэньня выбараў ды ўнясеньне ў Выбарчы кодэкс паправак на карысьць прапарцыйнай сыстэмы — інакш народ зноў падпадзе пад уплыў дэмагогіі Лукашэнкі, які абавязкова скажа, што як гэта мы дамо тэлевізійны эфір тысячам кандыдатаў. І трэцяй умовай зьяўляецца наданьне Палаце статусу правамоцнага заканадаўчага органу, якім яна на сёньня не зьяўляецца. З такім самым посьпехам дэпутаты могуць прадстаўляць народ у дзіцячым садку — будзе гэтулькі ж плёну. А калі прыняць удзел у выбарах на ўмовах улады, рэжым сшалее зусім, зьляціць з капытоў. У суседніх народаў ня будзе падставаў нам дапамагаць, а дыктатуры Мілошавіча з Гусэйнам пададуцца нам ідэальнымі дэмакратыямі. Баюся, каб не спазналі мы тады колішніх умоваў жыцьця ў Цэнтральнаафрыканскай Рэспубліцы з Бакасам на чале.

Калі ж умовы апазыцыі будуць прынятыя, будзем спадзявацца, што Лукашэнка з Замяталіным дазволяць дэмакратычным сілам заняць пэўны адсотак месцаў у парлямэнце.

**Аляксандар Кулінковіч, «Нэйрадзюбэль»:**

### Трэба ўлезьці ў гаўно

Думаю, што на выбары ісьці трэба: колькі ўжо можна размаўляць адкульсьці здалёк, хто з-за мяжы, хто з завугольля. У нас сытуацыя, як у паганай Расеі, дзе, напрыклад, ёсьць Яўлінскі — добры дзядзька, але нагэтулькі добры, што ўвесь час дзеіць уцішкі ці заяўляе, што ў яго незаплямленае сумленьне, таму ў брудных гульнях удзельнічаць ня будзе. А палітыкам час ад часу проста неабходна ўлазіць у гаўно. Беларускай жа апазыцыі трэба ўлезьці ў гаўно канкрэтна.

Калі б я стаў зараз на чале апазыцыі, я б, бадай, пайшоў на дамову з Лукашэнкам. Гэта, ведаеце, як калі ты йдзеш па вуліцы і да цябе чапляецца які хуліган ці п'янае быдла. Ясна, што можна зьбегчы ад яго ці закрыцца рукамі, як гэта робіць наша апазыцыя, але можна ж і дамовіцца зь ім, паразмаўляць. Калі ў цябе нармальная, цьвярозая галава, ты гэткім быдлам ня станеш, а й яго чаму добраму навучыш. А не, дык пакажаш людзям, што яно такое, тое быдла.

І мяркую, што пры ўмове сумленнасьці выбараў апазыцыя здолее-такі набраць 50% галасоў па ўсёй краіне.

**Леанід Екель, старшыня Саюзу журналістаў:**

### Час унёс карэктывы

Калісьці я лічыў, што журналістыка заўсёды павінна знаходзіцца ў разумнай апазыцыі да ўлады, але час унёс свае карэктывы. Паміж мною і той апазыцыяй, што ў нас існуе, стаіць бар'ер непаразуменьня. Я ня бачу шчырасьці ў дзеяньнях гэтых палітыкаў. Несумленна езьдзіць па сьвеце ды паліваць брудам улады сваёй краіны. Альтэрнатывы цяперашняй уладзе і кіраўніку дзяржавы я ня бачу.

А колькасьць месцаў у парлямэнце, на якую можа прэтэндаваць апазыцыя, мізэрная — максымум 5—7%.

**Арлен Кашкурэвіч, мастак:**

### У безуладны парлямэнт няма чаго лезьці

У тых умовах, калі парлямэнт ня мае ніякай моцы, на выбары ісьці ня варта. Каб гэта быў хаця заканадаўчы орган кшталту колішняга Вярхоўнага Савету. Калі ж улада пойдзе на кампраміс, апазыцыя займее рэальны шанец рэпрэзэнтаваць сябе ва ўладных структурах, бо людзі ўжо па-іншаму глядзяць на рэжым.

**Максім Капран, web-дызайнэр:**

### Адсоткаў 30

Усё залежыць ад таго, што будзе ўяўляць сабою заканадаўчы орган. Калі гэта будзе цяперашні Нацыянальны Сход з нулявымі паўнамоцтвамі, ісьці туды будзе азначаць зацьвердзіць легітымнасьць рэжыму. Калі апазыцыя пойдзе на такое, няхай сама ў такія гульні і гуляецца. Пры зьмяненьні ж зазначаных умоваў, пры нармальных інфармацыйных умовах, пад якімі я разумею карэктнае стаўленьне СМІ да розных палітычных поглядаў, апазыцыя зможа набраць пад 30%. Максымум.

**Міхал Анемпадыстаў, паэт-песеньнік:**

### Дайце народу арыенцір

Несур'ёзна ісьці на выбары на такіх умовах, якія ставіць рэжым. Апазыцыя ясна ўсьведамляе свае слабыя месцы, і патрабаваньне зьменаў у выбарчым кодэксе ды адкрыцьця мас-мэдыяў натуральныя. Апазыцыі варта было б вызначыць асобныя пераможныя пункцікі ў праграме, накшталт тых, што прывялі некалі да ўлады Лукашэнку. Як творца, я б надаў нацыянальнай ды дэмакратычнай ідэі больш прывабныя абрысы. Зараз народ ня мае перад сабою нармальнага арыенціру, да якога ён мог бы імкнуцца: куды ісьці, кім быць, якое грамадзтва будаваць. А трэба, напрыклад, вызначыць, што беларуская сям'я з двух чалавек мусіць мець двухпакаёвую кватэру, лецішча і аўтамабіль. Неабходна сесьці і ляпіць вобраз беларуса будучыні. Вызначыць усё да дробязяў. Месца, дзе звычайныя беларусы будуць адпачываць, — таксама неад'емная частка палітыкі: будзе гэта лецішча. Крым ці, прынамсі, сонечная Баўгарыя.

**Ігар Бабкоў, філёзаф:**

### Палітыкі таксама людзі

Праграма дзеяньняў апазыцыі мусіць быць прадуманай, узважанай, весьці да рэальных вынікаў. Дзякаваць Богу, прынятая палітыка няўдзелу ў выбарах стратэгічна ды тактычна абгрунтаваная і таму заслугоўвае падтрымкі ды перагукаецца з палітыкай саюзных сілаў у замежжы, прыкладам, ЗША. Калі ж апазыцыя здолее дамагчыся выкананьня сваіх патрабаваньняў ды будзе ўдзельнічаць у выбарах, тады будзе важным ня сам адсотак галасоў, а сытуацыя скарыстаньня ўсіх публічных магчымасьцяў дзеля пашырэньня сваёй электаральнай базы. Хоць я ўважаю, што ўзьдзеяньне праз парлямэнцкія выступы ды дзяржаўнае тэлебачаньне менш эфэктыўнае, чым беспасярэдняя праца зь людзьмі: выезд на месцы, распаўсюджваньне адпаведнай літаратуры, ладжаньне акцыяў. Ня ведаю, ці апазыцыя напоўніцу выкарыстоўвае гэткія сродкі, але трэба зазначыць, што мы часьцяком успрымаем нашых палітыкаў як машыны, а не як людзей, што жывуць у неспрыяльных эканамічна-псыхалягічных умовах.

**Пятро Васючэнка, літаратуразнаўца:**

### Ну, пабачым

Беларусы, як вядома, усё рашаюць у апошні дзень ці нават гадзіну. Абіраюць ці скідваюць уладу, ідуць або ня йдуць на выбары. Апазыцыянэры, мяркую, — таксама беларусы. Таму лічу, што адказ на вашае пытаньне знойдзецца ў апошні дзень або гадзіну перад выбарамі. «За туманам нічога ня відна..»

**Апытваў А.Прас.**

**P.S.** Падчас гэтага апытаньня адбылася таксама ўнутрырэдакцыйная дыскусія «НН». Галоўная тэза наступная: ідучы на выбары, апазыцыя легітымізуе рэжым, аддае яму легітымнасьць – адзіную сваю на сёньняшні дзень моцную карту – і застаецца ні з чым. Міжнароднае прызнаньне выбараў у «палатку» пацягне за сабою легітымнасьць наступных прэзыдэнцкіх выбараў. Зразумела, што апазыцыя ў палатку не пападзе і, у выніку, яшчэ больш маргіналізуецца. Зразумела таксама, што прэзыдэнцкія выбары зноў выйграе Лукашэнка. Такім чынам, рэжым умацуецца, а апазыцыя лясьне.

Для чаго Лукашэнку легітымнасьць? Бо міжнародна прызнаны Пуцін ня стане аб'ядноўвацца зь міжнародна непрызнаным Лукашэнкам, інакш страціў бы ўласнае прызнаньне. А Лукашэнку тое аб'яднаньне трэба да зарэзу, бо ўласных ідэяў пабудовы незалежнае Беларусі ён ня мае, эканоміка краіны дэградуе, а Лукашэнкава электаральная падтрымка грунтуецца менавіта на ўсходняй арыентацыі, на «аднаўленьні саюзу». Лішне казаць, што ідзецца тут адно пра ўтрыманьне ўлады, а не пра выкарыстаньне яе. Нездарма ўсе свае шэсьць гадоў на пасадзе Лукашэнка займаўся выключна ўмацаваньнем асабістае ўлады – «жыць лепей» ня стала.

Але што ж апазыцыя? Мы пагадзіліся, што яна мусіць удзельнічаць у выбарах – як працэсе. Зьнешнепалітычная актыўнасьць апазыцыі апошнім часам абсалютна пераважвае ўнутрыпалітычную. Нават не ідучы на ўчасткі, можна сустракацца зь людзьмі, выступаць і распаўсюджваць друкаваную прадукцыю, тлумачыць сваю палітыку. І тут вось што важна: пастуляты апазыцыі, у тым ліку і яе ўмовы ўдзелу-няўдзелу, мусяць быць зразумелыя людзям. Досьвед паказвае, што ў нас ня кожны студэнт ведае і разумее сэнс слова «мажарытарны». Апроч таго, няма сумневу, што падзелены на два БНФ мае сёньня нашмат меншыя шанцы прайсьці сьпісам, чым асобныя кандыдаты, якія стаяць на пазыцыях БНФ. Няшмат спадзеву і на допуск да СМІ, улічваючы каварства БТ (паказальны выпадак з прамым эфірам С. Шушкевіча), але высілкаў і часу змаганьне ў гэтым полі адбярэ шмат. Словам, нельга сказаць, што пералічаныя ўмовы апазыцыі былі б зразумелыя і блізкія народу. Якая альтэрнатыва?

Пакінуць толькі адну ўмову ўдзелу-няўдзелу – вызваленьне палітычных вязьняў – дэпутатаў Вярхоўнага Савету. У такой сытуацыі, нават церпячы татальную паразу на выбарах, апазыцыя істотна папраўляе свой аўтарытэт у вачох народа. Урэшце, некалькі выратаваных лёсаў далёка ня самых апошніх у Беларусі людзей – гэта годны і ўсім зразумелы ўчынак.

Пры выкананьні гэтай умовы ісьці на выбары, праводзіць па ўсёй краіне перадвыбарчыя сустрэчы – паказацца народу. Урэшце пры брутальным адсоўваньні апазыцыйных кандыдатаў, у іх заўсёды застаецца магчымасьць на знак пратэсту зьняць усе кандыдатуры і тым самым дэлегітымізаваць выбары.

Ісьці ў «палатку» і дамагацца перагляду яе паўнамоцтваў. Новаабраная «палатка», зразумела, будзе зусім іншай, чым цяперашняя – безгалосая і кішэнная.

За гады свайго праўленьня Лукашэнка шмат наламаў дроваў у палітычнай структуры Беларусі, і пакуль ён трымае рэальную ўладу, неверагодна разьлічваць, каб ён за паўгода ці год «адматаў» усё назад. Зь іншага боку, апазыцыя, якая мысьліць рэалістычна, ня можа разьлічваць на «ўсё адразу». У тым, да чаго мы дажыліся, ёсьць доля адказнасьці і апазыцыйных палітыкаў. Таму альтэрнатывы ўдзелу няма. Чаканьне яшчэ год ці дзесяць гадоў, пакуль Штаты будуць націскаць на Лукашэнку, а самім рабіць спарадычныя вылазкі на Маршы Свабоды – гэтага ня хочацца ўжо нікому. Гэта прывяло б да поўнае страты інтарэсу людзей да палітыкі.

Прынамсі на такой думцы сыйшліся супрацоўнікі «НН» падчас унутрырэдакцыйнай дыскусіі.

**А.К.**

# ІВАН ІВАНАВІЧ ДАНАЕЦ



Здымкі IREX/PROMmedia

Афіцыйная столінская раёнка «Навіны Палесся» напісала, што намесьнік кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі Іван Пашкевіч, быўшы на Століншчыне, скуль ён родам і дзе яго калісьці абралі ў Вярхоўны Савет, перадаў на будаўніцтва праваслаўных цэркваў у вёсках Вялікі Малешаў і Хотамель па 100 тысячаў рублёў, а ў вёсцы Гарадная — два чэкі па 980 тысячаў рублёў. Агулам на 2000 даляраў, ці што. Далей газэта паведамляе, што «такая дапамога аказваецца Іванам Іванавічам ня ў першы раз».

Адкуль жа Пашкевіч зь ягоным дзяржаўным заробкам мае такія грошы на дабрачыннасьць?

Адзін чэк на 980 тыс. рублёў з банку «Залаты талер» падпісаны жонкай Івана Пашкевіча Галінай, якая таксама працуе на дзяржаўнай службе, другі — нейкім Леанідам Сьвінгерам. Высьветліць у Галіны Пашкевіч, адкуль яна мае столькі грошай, нам не ўдалося. Іван Пашкевіч паведаміў нам, што ён папросту выкарыстаў (!) рахунак жонкі і сп.Сьвінгера, каб правесьці праз яго грошы, якія ён знайшоў па просьбе землякоў (!).

Паводле некаторых зьвестак Іван Пашкевіч сваім коштам таксама падпісаў на афіцыйную раёнку «Навіны Палесься» каля 1000 сваіх землякоў. Сп.Пашкевіч гэта пацьвердзіў і сказаў, што выпіша яшчэ. Праўда, у рэдакцыі «Навінаў Палесься» і на столінскай пошце гэтую інфармацыю катэгарычна абвергл і.

Варта дадаць, што яшчэ на пачатку году на Століншчыне зьявіліся каляровыя каляндарыкі з партрэтам Івана Пашкевіча, надпісам «Іван Пашкевіч — ваш дэпутат» ды пажаданьнямі шчасьлівага году. Прычым гэтыя каляндарыкі, таксама надрукаваныя невядома за якія грошы, распаўсюджваліся ня толькі ў Століне, дзе Пашкевіч дэпутатам, але і ў Давыд-Гарадку — у цяперашняй акрузе сацыял-дэмакрата Паўла Знаўца. А на Вялікдзень Іван Пашкевіч з фальклёрнымі калектывамі езьдзіў па вёсках Давыд-Гарадоцкай зоны ды ў часе канцэртаў агітаваў галасаваць за сябе.

У Цэнтральнай выбарчай камісіі на наша пытаньне, ці не зьяўляецца ўсё гэта парушэньнем закону, сакратар ЦВК Іван Ліхач адказаў, што Іван Іванавіч закону не парушае, бо «выбары яшчэ не абвешчаныя», і таму Іван Іванавіч цяпер «свабодны грамадзянін».

Такім чынам, свабодны грамадзянін Іван Пашкевіч можа невядома чым коштам і далей свабодна рыхтавацца да яшчэ не абвешчаных выбараў.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**



## з усёй краіны

### Царква на праспэкце Рэвалюцыі

У Барысаве з блаславеньня Філарэта вырашылі ўзьвесьці яшчэ адну праваслаўную царкву — ў гонар жаўнераў, што загінулі пад час войнаў, у якіх удзельнічала Расея. Пад будаўніцтва царквы гарадзкія ўлады адвялі пляц на пр.Рэвалюцыі, той самай рэвалюцыі, якая гэтыя цэрквы й разбурала.

**Сяржук Салаш, Барысаў**

### Моўная праблема

Студэнта V курсу геаграфічнага факультэту БДУ, лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца, які сёлета мусіў скончыць навучаньне на спэцыяльнасьці «геалёгія», 15 чэрвеня не дапусьцілі да абароны сваёй дыплёмнай працы «Бурштын Беларусі». Дэкан факультэту, Іван Піроянік, не дазволіў абараняць дыплём, напісаны беларускай мовай у клясычным (тарашкевіцкім) правапісе.

Усе спэцыялісты-геолягі, якія ўваходзілі ў камісію, у тым ліку і акадэмік Р.Гарэцкі, дыплём да абароны былі дапускалі. Яшчэ сьвежая гісторыя з газэтай «Наша Ніва», якая выйграла суд у Дзяржкамдруку за права выдавацца клясычным правапісам. Але Міністэрства адукацыі — іншая парафія. Цяпер Паўлу Севярынцу, які мае амаль усе выдатныя экзамэнацыйныя адзнакі за 5 гадоў навучаньня, пагражае адлічэньне з унівэрсытэту.

**Б.Т.**

### Пачаліся летнікі

Асацыяцыя дэмакратычных настаўнікаў «Сонца маладзіковае» з Жодзіна, якая дзейнічае ў межах тамтэйшага аддзяленьня ТБМ-ТБШ, правяла 18-19 чэрвеня скаўцка-фальклёрны летнік для жодзінскай і барысаўскай моладзі. У першы дзень адбыліся скаўцкія спаборніцтвы ў лесе, на другі дзень фальклёрныя калектывы рэстаўравалі сьвята «Троіца» паводле старадаўняга звычаю на пляцоўцы школьнага летніку.

**БАРС**



## спорт

# ЧЭСКАЯ ТРАГЕДЫЯ Ў ДЗЬВЮХ ДЗЕЯХ

***Выхаванцы Гаванэца вылятаюць з EURO-2000***

Першая на турніры гульня чэхаў супраць аранжавых галяндцаў прадэманстравала футбольнаму Старому сьвету, што віцэ-чэмпіёны Эўропы'96 не развучыліся гуляць у футбол. Увесь другі тайм брамнік гаспадароў ван дэр Сар хапаўся за сэрца, калі да яго брамы блізілася двухмэтравая небясьпека пад назовам Ян Колер. Два разы пасьля атак зь яго ўдзелам зьвінела папярэчына, але... На апошніх хвілях матчу італьянскі арбітар Каліна прызначае пэнальці пасьля акрабатычнага падзеньня ў чэскай штрафной Рональда дэ Бура... 0:1 — радасьць аранжыкаў ды сьлёзы чэхаў.

Гульня супраць чэмпіёнаў сьвету французаў пачалася з памылкі абаронцы Габрыэла, які адправіў на рандэву з брамнікам Срнічакам галеадора Анры. Цемнаскуры француз быў на вышыні, але чэхі ня думалі апускацца на калені. Яны з запалам кінуліся штурмаваць абарончыя рэдуты супернікаў, ды напрыканцы тайму Бартэз атрымаў «на арэхі» ад Карэла Паборскі, які трапна прабіў пэнальці. Аднак пасьля пярэрвы пэрспэктывы чэскай дружыны на бэльгійска-галяндзкім сьвяце футболу былі перакрэсьленыя пасьля ледзь не адзінай небясьпечнай атакі французаў у другой палове — 1:2... Потым быў адчайны націск каманды Гаванэца, чарговы стрэл Колера ў перавясла, удар безвыходнасьці Локвенца...Фінальны сьвісток забіў надзею ў душах чэскіх заўзятараў ды футбалістаў. У тое, што Данія пераможа Галяндыю, слушна ня верыў ніхто...

**Богусь Біятлянёнак**

*На здыму: чэскія заўзятары павесілі насы.*

## Дзе варта быць



### Рок-кола – Наваполацак

У суботу 24 чэрвеня ў наваполацкім Гарадзкім палацы культуры адбудзецца традыцыйны рок-фэстываль «Рок-кола». Згоду на ўдзел у «Рок-коле'2000» ужо далі гурты «Вокзал», «Склеп» ды адкрыцьцё леташняга фэсту – менчукі з «Млыну». Завітае на сьвята й Віктар Шалкевіч. Традыцыйна ў фэстывалі бяруць удзел мясцовыя маладыя гурты.

**Андрэй Аляксандраў**

### Немцы ў Менску

22 чэрвеня, акурат у дзень фашыстоўскага нападу на СССР, у Менск ізноў завітаюць немцы. Праўда, на гэты раз зь мірнай місіяй: у гэты дзень у Малой залі Палацу Рэспублікі грае дзяржаўны канцэртны аркестар Беларусі, якім дырыгуе Ульрых фон Врохем. У праграме творы Гендэля, Гумэля, Шнітке, Шонбэрга. Цана квіткоў – ад 1000 да 1200 рублёў.



### Навагрудак-2000

24–25 чэрвеня ў Навагрудку будзе вялікая сеча. 300 ваяроў з 6 краінаў зьбяруцца каля старых муроў першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. У першы дзень сучасныя рыцары ўдзельнічаюць у пастановачных двубоях, а ў другі – штурмуюць Замкавую Гару.

### Тэатар гімнастыкі

Беларускіх гімнастаў ды гімнастак ведаюць ува ўсім сьвеце. 21 чэрвеня а 19-й у канцэртнай залі «Менск» прэзэнтуюць першы ў сьвеце Тэатар гімнастыкі. Кіруе новым тэатрам заслужаны майстар спорту Яўгенія Паўліна. Кошт квіткоў ад 500 да 6000 рублёў.

### Тытаны боксу

24 чэрвеня а 18-й у Лядовым палацы, што на Прытыцкага, 27, б'юцца тытаны. Найлепшыя майстры тайскага боксу сыходзяцца ў двубоях, каб выявіць наймацнейшага ды найспрытнейшага. Сярод спартоўцаў – Аляксей Ігнашоў, чатырохразовы чэмпіён сьвету па муай-тай (тайляндзкім боксе).

**Алесь Кудрыцкі**

### Vader

Эўрапейскае турнэ жывой легенды польскага death metal не абыйдзе бокам і беларускую сталіцу: 22 чэрвеня а шостай вечара ў клюбе «Рэактар» адбудзецца мэгашоў гурту Vader. Разаграюць публіку такія каманды, як Exhumator (Беларусь), Vital remains (ЗША), Fleshcrawl (Нямеччына), Rebaellium (Бразілія), Pandemia (Чэхія).




### Ніда й Паланга

Для ахвотных адпачыць на літоўскіх курортах урад суседняй краіны зрабіў невялічкі сюрпрыз. З 1 чэрвеня замежныя турысты, што прыяжджаюць у Палангу аўтамабілем, мусяць аплочваць паркоўку на вуліцах курорту. Стаянка машыны на дзень і ноч каштуе 1,25 даляра. У пятніцу, суботу і нядзелю плата складае 2,5 даляры. Падобныя правілы з наступнага месяца ўводзяцца ў Швянтоі, суседнім курортным гарадку. Тэрыторыя, на якой уведзены збор, пазначаная шыльдай «Зона стаянкі», «Стаянка платная». І гэтак будзе да 31 жніўня.

**БАРС**



## Культура ў Полацку

### Паводле Камю

Акторы мясцовага народнага драматычнага тэатру «Час» пад кіраўніцтвам Барыса Лівіна 14 чэрвеня прэзэнтавалі п'есу «Непаразуменьне» паводле Альбэра Камю. Акторы-аматары сабралі поўную залю. Воклічы адной з галоўных гераіняў п'есы аб тым, як ёй надакучыла сярод шэрасьці ды хочацца «да мора», каб адчуць сапраўдную свабоду, гучалі вельмі надзённа.

**Андрэй Аляксандраў**

### «Накірункі сьвету»

За апошні год восем пісьменьнікаў і журналістаў з Полацку й Наваполацку былі прынятыя ў Беларускі ПЭН-цэнтар. Свае пасьведчаньні яны атрымалі ў мінулую сераду ў полацкім музэі-бібліятэцы Сімяона Полацкага з рук віцэ-прэзыдэнта Беларускага ПЭН-цэнтру Карласа Шэрмана.

У другой частцы сустрэчы адбылася прэзэнтацыя новай кнігі Карласа Шэрмана «Накірункі сьвету». Кніга складаецца з аднайменнай паэмы, напісанай па-гішпанску, і яе перакладаў на беларускую, ангельскую й расейскую мовы. Спадар Шэрман чытаў сваю паэзію па-гішпанску і па-беларуску. Затым ён распавёў гісторыю свайго жыцьця, пра знаёмствы з Нэрудам, Амаду, Маркесам.

**Васіль Кроква, Полацак**

### Полацак на здымках

16 чэрвеня ў Полацку адкрылася фотавыстава пад старасьвецкай назвай «Там, дзе Палата сустракаецца зь Дзьвіною...» У ёй узялі ўдзел дзевяць фотамайстроў, сярод іх Эрнст Цецярэўскі, Алег Елькін, Анатоль Дубатоўка. Выстава прысьвечана Полацку канца XX ст. Практычна ўсе кнігі пра Полацак, якія пабачылі сьвет у беларускіх выдавецтвах за апошнія дваццаць гадоў, ілюстраваліся здымкамі Цецярэўскага (у тым ліку й хрэстаматыйная кніга Уладзімера Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі»). Цяпер гэты фотамастак працуе на замову выдавецтва «Беларусь» над новым фотаальбомам пра родны горад. Сярод аўтараў выставы і адзін з кіраўнікоў полацкага рыцарскага клюбу «Жалезны воўк» Андрэй Мікалаеў. На ягоных фотаздымках — ваярскія подзьвігі сяброў клюбу.

**Васіль Кроква, Полацак**



# ДАРОГА СЬМЕРЦІ: ВЯЛЕЙКА — БАРЫСАЎ

22 чэрвеня 1941 г., у дзень пачатку нямецка-савецкай вайны, быў выдадзены загад пра эвакуацыю вязьняў зь беларускіх турмаў. Вязьні з Баранавічаў, Валожына, Ліды мусілі быць пераведзеныя ў Чыцінскую вобласьць, вязьні з Горадні — у Іркуцк, зь Берасьця — у Тамбоў і Курск. Вялейскія вязьні мусілі накіравацца ў Разань. Паколькі эвакуацыя зь Вялейкі не ўяўлялася магчымай (станцыю ў Маладэчне бамбардавалі нямецкія самалёты), было вырашана перакінуць арыштаваных у Барысаў, а адтуль ужо праз Воршу, Вязьму, Маскву вывезьці ў Разань.

Транспарту для перакідкі не было, а вязьняў было шмат, таму арыштаваныя мусілі прайсьці пехам 180 км да Барысава цягам пяці дзён. Дарога ішла праз Сосенку, Ілію, Плешчаніцы і далей да Барысава. У загадзе на эвакуацыю прыводзіцца лічба — 1023 вязьні, хоць польскія дасьледчыкі лічаць, што ў турме знаходзілася ад 1500 да 1800 чалавек. Вязьні вялейскай турмы ў сваіх успамінах ацэньваюць колькасьць эвакуяваных прыкладна ў 2000 асобаў.

Акцыя пачалася 24 чэрвеня ў другой палове дня. Спачатку ў камэры зайшлі вартаўнікі, якія зачыталі сьпісы хворых і нявдольных да маршу, атрыманыя ад лекара. Тым, чыё імя было агучана, загадалі застацца ў камэрах, астатнім загадалі сабраць рэчы, пакінуць у камэрах сеньнікі ды іншыя цяжкія рэчы. Каля 16-й гадзіны вязьняў вывелі на турэмны двор. Тых, хто праходзіў па расстрэльным артыкуле, адвялі за турэмную браму і расстралялі. Як паказваюць успаміны, расстралялі каля 200 чалавек. Пра лёс расстраляных пад мурамі турмы паведаміў нам Васіль Місюля. Рэляцыю пра падзеі ў Вялейцы ён падаў у тыя жніўні 1954 г. камітэту Амэрыканскага Кангрэсу пад старшынствам Керстана, што дасьледаваў камуністычныя злачынствы. Успаміны Васіля Місюлі, які ў тыя хвалюючыя часы працаваў бугальтарам у Вялейцы, можна прачытаць у зборніку дакумэнтаў «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі», выдадзеным Беларускай Цэнтральнай Радай. Прывядзем толькі вытрымку зь іх.

«Іншы, яшчэ больш жудасны абраз бальшавіцкай апекі на беларускіх землях я бачыў пасьля таго, як бальшавікі ўцяклі зь Вялейкі перад наступаючымі нямецкімі войскамі. Калі ўсе ўпэўніліся, што наехаўшыя з Савецкай Расеі бальшавікі ўцяклі, а іх мясцовыя памочнікі пахаваліся, то шмат народу захацела адведаць турму, зь якой уначы выгналі ўсіх арыштаваных невядома куды. У турме нашым вачом паказаліся абставіны, у якіх бальшавікі трымалі людзей і якіх нельга было забыцца да сьмерці. На ніжэйшым паверху камэры былі высака забалочаныя нечыстотамі, урынай, бруднай саломай. Вышэйшыя камэры былі пазаліваныя нечыстотамі з парашак. Смурод у будынку быў не да вытрымання.

На турэмным панадворку была пабудаваная невялікая зямлянка, зь якой ішоў акрываўлены сьлед па зямлі ад нечага цяжкага, валочанага ў бок сьвежа закопанай траншэі тут жа на гародзе. У зямлянцы мы пабачылі моцна апырсканую кроўю сьцяну, на якой было шмат дзюрак ад куль. На падлозе зь пяском быў аграмадны грыб згусьцелай крыві. Тут стралялі людзей, якіх пасьля цягнулі па зямлі ў траншэю.

На другі дзень створаная гарадзкая ўправа, пад кіраўніцтвам Л.Сапешкі, прыступіла да раскопак на турэмным панадворку. Я бачыў, як адкапалі адну самую сьвежую траншэю. Тут былі застрэленыя куляй у патыліцу людзі, са зьвязанымі назад калючым дротам рукамі, уложаныя адзін каля другога і прысыпаныя тоўстым слоем зямлі. Пласты людзей ляжалі адзін над другім, разьдзеленыя нятоўстымі слаямі зямлі. Пры мне адкапалі тры пласты яшчэ сьвежых трупаў. Шмат хто зь людзей мог распазнаць сваіх родных ці знаёмых па тівары, а ў ніжэйшых пластох — па вопратцы. Далейшых раскопак я ня бачыў, бо на падворку турмы немагчыма было стаяць дзеля цяжкога паху ад адчыненых магіл. Пры мне было вырыта больш за сотню трупаў. Распазнаных забралі родныя з бліжэйшых вёсак і пахавалі на сваіх магілках. Рэшту ахвяраў перавезьлі на гарадзкі могільнік і пахавалі па хрысьціянскім абрадзе.

*Агулам знойдзена ў вялейскіх траншэях каля 500 трупаў людзей, вымардаваных НКВД за паўтара года савецкай улады. Так было ў невялічкай Вялейцы, але ж такія парадкі былі пад саветамі па ўсёй шматпакутнай Беларусі».*

Перад 22 чэрвеня вэрмахту з ініцыятывы шэфа Айнзацгрупы С было загадана захапіць вязьніцы і ўтрымліваць пад сваёй апекай вязьняў да перадачы іх сілам ахвоы. Нямецкая выведка працавала добра, і ў першыя дні вайны нямецкаму камандаваньню стала вядома пра эвакуацыю арыштаваных на ўсход. Літаральна адразу была праведзеная эксгумацыя, у якой бралі ўдзел вайсковыя ўлады, новая адміністрацыя, мэдыкі, жыхары местаў, а ў некаторых выпадках замежныя журналісты.

Згодна зь нямецкімі справаздачамі і тагачаснай прэсай, колькасьць зьнішчаных каля муроў складае 500—800 чалавек.

Вернемся ж да астатніх вязьняў. Яны былі падзеленыя на дзьве раўназначныя групы. Асобна былі аддзеленыя ад гэтых дзьвюх групаў жанчыны, якія ішлі па-за асноўнымі калёнамі. Вялейскіх вязьняў надзейна ахоўваў конны канвой, ёсьць сьведчаньні, што ў суправаджэньні вязьняў брала ўдзел уся вялейская міліцыя, якая панічна ўцякала на ўсход.

Першыя расстрэлы былі праведзеныя адразу каля вёскі Касута, што недалёка ад Вялейкі, у якім кілямэтры ці меней ад цяперашняга берага Вялейскага вадасховішча. Апоўначы калёны арыштантаў дасягнулі вёскі Сосенка. Пры падыходзе да вёскі зноў гучалі стрэлы – мо нехта спрабаваў уцячы, пасьля чаго энкавэдысты паклалі вязьняў тварам на тракт. Першы адпачынак быў зроблены ў мястэчку Ілія, што прыкладна за 30 км на ўсход ад Вялейкі. Там вязьні атрымалі па кавалку хлеба, пяць кавалкаў цукру і вады ўволю. Адпачыўшы

## Самы балючы мой успамін

Рагнеда АЛЯХНОВІЧ

У Вялейскай турме ў 1940 г. быў зьняволены мой бацька, а ў 1944-45 г. – маці. Абое былі сьвядомымі беларусамі, жылі й працавалі дзеля Бацькаўшчыны. Такога бальшавікі не прабачылі.

Мой бацька Вінцук Грышкевіч (на эміграцыі Вінцэнт Жук-Грышкевіч) быў арыштаваны ў Вільні восеняй 1939 г. Вязьніца ў Вялейцы – толькі частка яго турэмнай Галгофы. Бо прайшоў ён Лукішкі ў Вільні, турмы ў Беластоку, Менску, Полацку ды Воршы, «трудовые» лягеры на Пячоры. А потым – армія генэрала Андэрса, удзел у бітве пры Монтэ-Касіна (Італія), доўгія гады эміграцыі, стварэньне беларускіх асяродкаў у Вялікабрытаніі й Канадзе, праца на радыё «Вызваленьне», блізу 12 гадоў на пасадзе Старшыні Рады БНР. Памёр ён у 1989 г., пражыў 86 гадоў.

А маці пражыла няпоўныя 40 гадоў. Жыцьцё яе, як мне перадалі праз дзясятак гадоў, абарвалася ў Вялейскай турме. Пра яе – мой самы балючы ўспамін.

Маю маму Ксеню Грышкевіч, з дому Лапіцкую, арыштавалі ў канцы жніўня 1944 г. Было мне тады 13 гадоў. І стала я насіць маме ў Вялейскую турму перадачы, як тады казалі – «падаянкі». Пад час наступу савецкіх войскаў турма гарэла. Таму вязьняў трымалі ў шэрым аднапавярховым будынку з маленькімі закратаванымі вокнамі, які быў побач. Людзі зь перадачамі станавіліся ў чаргу каля агароджы й чакалі, пакуль падыдзе дзяжурны энкавэдыст і возьме запіскі ды торбачкі з прадуктамі і бялізнай. Дзяжурнымі былі тутэйшыя вясковыя хлопцы, якія вярнуліся з партызанаў. У чарзе найбольш былі сяляне – у хустах, сьвітках, а калі захаладала – у кажушках, чуйках, валёнках.

Аднойчы, стоячы ля агароджы, я пабачыла маму. Яна ішла ў сваім сінім зімовым паліто, але зь непакрытай галавой, косы складзены «кошычкам», рукі за сьпінай. Яе вялі два энкавэдысты. Праходзячы каля мяне, яна ціха сказала: «Ня плач. Ідзі дамоў. Я скора вярнуся».

Позьняй восеняй міма таго ж плоту правялі майго стрыечнага дзядзьку Кастуся Касяка. Я скамянела ад нечаканасьці, жаху й зьдзіўленьня: быў ён у чырвонаармейскім шынялі й пілётцы і гаварыў па-расейску: «Так это и есть Вилейка?» Мусіць такім чынам хацеў мне паказаць, каб я яго не прызнавала. Дзядзьку Кастуся прысудзілі да сьмерці цераз павешаньне. Прысуд выканалі ў Вялейцы. Маму я бачыла яшчэ адзін раз на пачатку зімы. Арыштаваных ужо трымалі ў будынку турмы. Каб пабачыць блізкага чалавека, калі ён знаходзіўся ў адной з камэраў на другім паверсе, трэ было перайсьці на процілеглы бок вуліцы й паглядзець уверх, на вокны вязьніцы. Я так і зрабіла. Праз колькі часу я пабачыла маму. Яна ўзьнімала ў руках клуначак, які я перадала. Потым адклала яго, згарнула рукі так, нібы мяне абнімала. Але турэмныя вокны закрылі шчытамі, і нават такой уцехі я больш ня мела.

У лютым мае перадачы сталі вяртаць са словамі: «Выбыла в этап». Пэўны час я ўсё яшчэ хадзіла да турмы. А потым стала чакаць вестачак ад мамы. Не дачакалася. Пасьля сьмерці Сталіна, недзе ў канцы 50-х, мне перадалі, што ў Вялейскай турме, калі там была зьняволеная мая мама, усчалася эпідэмія тыфу. Яна захварэла і памерла. Але ці так гэта насамрэч было – ня ведаю.



## Вялейская турма

Згодна з дамовамі Молатава-Рыбэнтропа пра падзел Польшчы паміж Савецкім Саюзам і Нямеччынай, 17 верасьня 1939 г. войскі Чырвонай Арміі пераступілі савецка-польскую мяжу і пачалі «вызваляць» заходнебеларускія землі.

Ужо праз тры тыдні літоўцам аддалі Вільню. Распачалі калектывізацыю зямлі, праўда, пакуль не такую маштабную, як у 1949 г. Напаўняліся турмы, куды садзілі тых, хто лічыўся сацыяльна небясьпечным для камуністаў. Пачаліся арышты заможных сялянаў, паноў, асаднікаў, чыноўнікаў, службоўцаў, інтэлігенцыі.

Савецкія турмы ў Заходняй Беларусі былі ў Баранавічах, Валожыне, Лідзе, Нясьвіжы, Навагрудку, Слоніме, Стоўпцах, Беластоку, Маладэчне, Горадні, Ваўкавыску, Ломжы, Берасьці, Кобрыні, Пружанах, Ашмяне, Глыбокім, Пінску, Драгічыне, Століне, Вялейцы. Згодна з савецкімі дакумэнтамі, у турмах Заходняй Беларусі ўтрымлівалася на чэрвень 1941 г. ня меней за 16357 чалавек (менавіта столькі вязьняў належала эвакуяваць ува ўсходнія рэгіёны Савецкага Саюзу, але ж былі яшчэ й тыя, каго належала расстраляць на месцы). Паколькі сьледства звычайна доўжылася пару месяцаў, а пасьля зьняволеная або расстрэльвалі, або вывозілі ў глыбіню Расеі ці Казахстану, можна ўявіць, колькі людзей прайшло праз заходнебеларускія турмы ў 1939-41 гадах.

Вялейка раскінулася на берагох Вяльлі ў 100 км на паўночны захад ад Менску. За польскімі часамі Вялейка была цэнтрам павету ў складзе Віленскага ваяводзтва. Тут дзейнічалі суполкі Сялянска-Работніцкай Грамады, Таварыства Беларускай Школы, КПЗБ. У 30-я гады ў горадзе налічвалася 7,5 тыс. жыхароў. Адной са славутасьцяў места была турма, пабудаваная некалі, адразу па далучэньні Вялейкі да Расейскай імпэрыі. За палякамі турма была лімітаваная, г.зн., што ў ёй не павінна было ўтрымлівацца больш за 350 чалавек.

Пасьля прыходу саветаў вялейская турма пачала выконваць новыя функцыі. Цяпер у яе кідалі тых, хто ўяўляў небясьпеку для новых гаспадароў. Першыя тры месяцы вялейскі астрог быў павятовай турмою, калі ж пасьля прыняцьця Заходняй Беларусі ў склад БССР 4 сьнежня была ўтвораная Вялейская вобласьць, вязьніца пачала выконваць функцыі абласной турмы. Як вынікае з савецкіх афіцыйных дакумэнтаў, на 10 чэрвеня 1941 г. у вялейскай турме налічвалася каля **1023 вязьняў***, г.зн. у тры разы больш за польскі ліміт. У турму звозілі вязьняў з усяе Вялейскае вобласьці — з Маладачанскага, Смургоньскага, Ашмянскага, Радашкавіцкага, Пастаўскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Мядзельскага, Дзісенскага, Браслаўскага, Друйскага раёнаў. Пры гэтым працавалі й раённыя турмы. Так, у чэрвені 1941 г. з Маладачанскай турмы мусілі быць эвакуяваныя 575 чалавек, з Глыбокага (Беразьвечча) – 678, з Ашмяны — 265 чалавек. Трэба падкрэсьліць слова «эвакуяваныя», бо значную колькасьць вязьняў, «найбольш небясьпечных для савецкай улады», меркавалася расстраляць на месцы. Для параўнаньня, у Беластоку ў чэрвені 1941 г. утрымлівалася мінімум 2126 чалавек, у Берасьці — 3850 чалавек, у Горадні ~1796 чалавек. Лёсы вязьняў Горадні, Берасьця (у тым ліку й Берасьцейскай крэпасьці), Беластоку, Ашмяны, Пінску яшчэ чакаюць дасьледаваньня.

Зьвернемся таксама да кнігі Натальлі Івановай і Ўладзімера Адамушкі «Зьлітуйцеся», напісанай на матар'ялах, што датычаць Вялейскай турмы. У кнізе прыводзіцца дакладная запіска на імя намесьніка пракурора БССР па спэцыяльных справах *«Аб працы спэцыяльнага аддзелу Вялейскай вобласьці Пракуратуры за 1940 год»*. Працытуем гэты дакумэнт:

«За справаздачны пэрыяд пра-

# — СІБІР



дзьве-тры гадзіны, вязьні рушылі далей.

Перад Плешчаніцамі калёну нагналі нямецкія самалёты, вязьням было загадана легчы на тракт, ахоўнікі пахаваліся ў равах і пачалі страляць па самалётах зь вінтовак, карабінаў, кулямётаў. На такую страляніну зьвярнулі ўвагу нямецкія лётчыкі, разьвярнулі машыны і скінулі дзевяць бомбаў на канвой. Забітых сярод арыштантаў не было, але загінулі і былі параненыя некалькі канваіраў. Перапужаныя нямецкімі бомбамі, коні з вазамі паразьбягаліся. Гэта раззлавала карнікаў, і пачалася бойня. Вязьням было загадана кінуць свае пажыткі і бегчы да лесу — некалькі дзясяткаў мэтраў ад дарогі, бо ісьці гасьцінцам было небясьпечна. Там, у лесе, ахвяры беглі некалькі кілямэтраў безь перадыху. Тых, хто адставаў, расстрэльвалі зь вінтовак або, каб ашчадзіць патроны, забівалі штыхамі.

Вось што ўспамінаў удзельнік таго маршу Францішак Пілярскі:

«Людзі падалі ад зьнямогі. Тады іх калолі штыхамі два ці тры разы, і далей. Па астатніх стралялі бесьперапынна. Казік Ракоўскі дапамагаў свайму стрыечнаму брату, я яму дапамагаў. Да нас падбег адзін з энкавэдыстаў і зароў: «Бросай его». Дулам рэвальвэра настаўляў то на мяне, то на Казіка. Мы кінулі стрыя Казіка. Энкавэдыст стрэліў з рэвальвэра двойчы ў галаву, і бедны Ракоўскі зарыўся носам у зямлю. Мы беглі далей. Страх сьмерці гнаў нас наперад».

Вязень Баляслаў Янцэвіч успамінаў:

«У часе адпачынку гімназіст Часлаў Сівіцкі выразіў нязгоду у адрас канвою з нагоды забойстваў палякаў. Яго адразу расстралялі на вачах у іншых вязьняў. Па гадзінным перапынку зноў сказалі ўстаць і маршаваць далей. Калі ўсе ўсталі, сын Маршанскага (настаўніка зь Сьвянцянаў), ідучы з бацькам, хацеў яму дапамагчы, гэта заўважыў энкавэдыст, падбег да Маршанскага і загадаў адпусьціць бацьку, сын не паслухаўся, зараз жа энкавэдыст стрэліў Маршанскаму ў галаву, забіўшы на месцы, сына ж ударыў».

Канвой загадаў сьцішыць бег толькі пад самымі Плешчаніцамі. У тым шалёным бегу загінула шмат вязьняў. Доктар Вялічка (Тадэвуш Дыбоўскі), удзельнік таго маршу, у кнізе Рышарда Шаўлоўскага «Польска-савецкая вайна 1939 г.» ацэньвае колькасьць забітых у дарозе — 108 чалавек. У «Рэгіянальнай газэце» друкаваліся прозьвішчы тых, хто быў забіты на Дарозе Сьмерці зь Вялейкі ў Барысаў і каго запомніў доктар Вялічка з таварышамі.

Але гэта быў яшчэ не канец. Пад Барысавам на мосьце церазь Бярэзіну за пару кілямэтраў ад гораду кінуўся ў ваду Юзаф Ярашэвіч, што справакавала новы расстрэл тых, хто ішоў побач зь ім.

28 чэрвеня калёны дайшлі да Барысава. На ўскрайку гораду слабейшых вязьняў пасадзілі на аўтамабілі і завезьлі на станцыю. Там вязьняў пасадзілі ў таварныя вагоны, замкнулі дзьверы. Пачаўся налёт. Канваіры разьбегліся хавацца. Цягнік зь вязьнямі знаходзіўся паміж вайсковымі цягнікамі, таму замкнёныя арыштанты патрапілі ў самы эпіцэнтар абстрэлу зь нямецкіх самалётаў. Праз Воршу, Вязьму, Маскву вязьняў даставілі ў Разань. Замест 322-х вязьняў, паводле дакумэнтацыі НКВД, у Разанскую турму прыбылі толькі 322 справы на іх. Гэта значыць, што ў дарозе загінулі яшчэ 322 чалавекі.

Для жывых пачынаўся новы этап іхных пакутаў.

**Алег Гардзіенка**

## календар

**20 чэрвеня 1675 г.** паўночнаамэрыканскія плямёны індзейцаў аб'ядналіся дзеля змаганьня з супольным ворагам – амэрыканскімі каляністамі. У той дзень і распачалася шматгадовая зацятая барацьба «чырванаскурых» і «бледнатварых». Ускосным чынам у барацьбе супраць індзейцаў браў удзел і наш зямляк Тадэвуш Касьцюшка. Ён як вайсковы інжынэр амэрыканскай арміі будаваў фартыфікацыйныя збудаваньні, у якіх базаваліся амэрыканскія падразьдзяленьні. На



пачатку XIX ст. Касьцюшка пісаў свайму сябру Томасу Джэфэрсану, у той час трэцяму прэзыдэнту ЗША: *«Вашыя ідэі, што наша лінія далейшай дэмаркацыі магла б быць ад некаторай кропкі на возеры Шамплейн – добрая, бо зачыніла б іхныя* (індзейцаў – **А.Г.**) *рынкі скальпаў, але тая, пра іх поўнае выгнаньне з кантынэнту – лепшая»*.

**24 чэрвеня 1925 г.** дэпутаты польскага сойму Пётры Валошын і Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Юры Сабалеўскі, Браніслаў Тарашкевіч пакінулі Беларускі пасольскі клюб (палітычнае аб'яднаньне дэпутатаў-беларусаў) і ўтварылі пасольскі клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.



Праз некаторы час паўстала і ўласна БСРГ, старшынём якой быў абраны Браніслаў Тарашкевіч. Цікава, што ў склад кіраўніцтва партыі ўвайшлі такія асобы, як Фабіян Акінчыц, будучы лідэр Беларускай Нацыянал-Сацыялістычнай Партыі, і Радаслаў Астроўскі, прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Патрабаваньні Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады былі характэрныя для радыкальнай партыі левага кірунку таго часу: самавызначэньне заходнебеларускіх зямель і аб'яднаньне ўсіх беларускіх зямель у адну рэспубліку (мелася на ўвазе ў межах БССР), канфіскацыя панскіх і царкоўных земляў, скасаваньне асадніцтва, дэмакратычныя свабоды. Сродкам дасягненьня мэты сябры БСРГ лічылі адкрытую «барацьбу народных масаў з польскімі эксплюататарамі». Праз паўтары гады, у студзені 1927 г., БСРГ налічвала блізу 120 тыс. сяброў, дзейнічалі 18 павятовых камітэтаў, выдаваліся дзясяткі газэтаў. БСРГ шчодра фінансавалася камуністамі з БССР. Дзейнасьць павятовых камітэтаў і выданьне прэсы цалкам кантралявалася КПЗБ, якая таксама фінансавалася Масквой.

Польскія ўлады адчулі тую небясьпеку, якую таіла ў сабе новая беларуская партыя, арыентаваная на разбурэньне польскай дзяржавы. 21 сакавіка 1927 г. Грамада была афіцыйна забароненая, а 400 ейных кіраўнікоў аддалі пад суд. Нікога не расстралялі, нікога ня кінулі на катаргу. Кіраўнікі БСРГ верылі, што жыцьцё ў БССР лепшае, чым у «фашысцкай Польшчы», таму яны абралі месцам жыхарства ў 30-я гады СССР. У верасьні 1933 г. у Негарэлым адбыўся абмен Браніслава Тарашкевіча на Францішка Аляхновіча, які сем гадоў адседзеў у Салавецкіх лягерах. Аляхновіч пры сустрэчы зь неўразуменьнем паглядзеў у вочы Тарашкевічу і з жахам спытаўся: *«Бронюсь, куды ты йдзеш?»* Той не паслухаў свайго былога сябра. Браніслаў Тарашкевіч быў расстраляны ў 1938 г. па абвінавачваньні ў контррэвалюцыйнай дзейнасьці. Такі ж лёс напаткаў і іншых сяброў БСРГ, што трапілі ў СССР.

**25 чэрвеня 1950 г.** пачалася карэйская вайна. Яшчэ ўвесну 1950 г. паміж Сталіным і Кім Ір Сэнам было дамоўлена, што вайна з Поўднем пачнецца толькі позьняй восеньню, але самаўпэўнены Кім пачаў вайну на пяць месяцаў раней. Напачатку шанцавала камуністам, якія захапілі Сэул. На дапамогу Паўднёвай Карэі прыйшоў амэрыканскі генэрал Макартур, які адваяваў Сэул і дайшоў амаль да Пхен'яну. Тады карэйскія камуністы запрасілі на дапамогу каля мільёну кітайскіх «добраахвотнікаў». Вайна, што цягнулася тры гады, скончылася нічыёй: Карэя засталася падзеленая па 38-й паралелі. У вайне загінула 54 тыс. амэрыканцаў, каля мільёну карэйцаў і 250 тыс. кітайскіх добраахвотнікаў.

У 1950 г. Радаслаў Астроўскі, прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады на эміграцыі, зьвярнуўся да маладых беларускіх хлапцоў у ЗША з заклікам запісвацца ў добраахвотнікі і ехаць у Карэю, каб удзельнічаць у крыжовым паходзе супраць камунізму. Менавіта *там*, на карэйскай паўвыспе, на думку Астроўскага, мусіла пачацца чарговае змаганьне за беларускую незалежнасьць.

**26 чэрвеня 1975 г.** прэм'ер-міністар Індыі Індзіра Гандзі абвяшчае пра ўвядзеньне ў краіне надзвычайнага становішча. Усе лідэры апазыцыі былі арыштаваныя, была ўведзеная жорсткая цэнзура на СМІ.



Індзіра Гандзі, насуперак вобразу, створанаму ў Савецкім Саюзе, была жорсткім дыктатарам усходняга тыпу, душыла любую праяву народнай незадаволенасьці.

**Алег Гардзіенка**

# Даражэнькі Бацька Сталін!

Даражэнькі Бацька Сталін! Я дзяўчынка 10-гадовая Ірэна Аляксандраўна Гапанёнак. Я хаджу ў школу ў 3-ю клясу. Сёньня 8 лістапада 1940 г. – вялікае сьвята, якое прынесла для ўсяго савецкага народа нечуванае шчасьце. Сёньня ў нашай школе а 10-й раніцы была імпрэза для дзяцей. І я там дэклямавала вершык: «Слава!» І калі распавядала, рукамі* глядзела на твой партрэт і гучна мовіла: «Леніну слава! Сталіну славу!» І бачыла я, як усе заўсьміхаліся зь вялікай радасьцю, гледзячы на твой партрэт. Вярнуўшыся дахаты, узяла паперу і пёра, і, працягваючы да твайго партрэту сваю маленечкую руку, прашу цябе, не адмаўляй мне ў вялікай просьбе, вярні мне майго татулечку, Аляксандра Францавіча Гапанёнка, які быў арыштаваны 15 верасьня 1940 г. Арыштавала яго мясцовая міліцыя Вялейскай вобласьці, Дунілавіцкага раёну, вёскі Глінішчы. Родны бацька Сталін, калі нас выслалі зь Вялейскай вобласьці і мы ехалі ў цягніку, я ўвесь час пяяла песьні твае, сталінскія, польскія фашысты мяне абзывалі маленькую за гэта, мацюкалі, і абзывалі мяне за гэта камуністкай. Але гэтае слова было для мяне вялікай славай. І гэта слова засталося вялікай радасьцю. Родны бацька Сталін. Дні і гадзіны буду ад цябе чакаць адказу. Я, маленькая піянерка, пяю твае песьні і з гэтай вясёлай усьмешкай дачакаюся твайго ліста, зь якім буду ісьці правільнай дарогай да свайго татулечкі Аляксандра Францавіча Гапанёнка, аддам твой ліст яму ў рукі... Родны бацька Сталін, прашу моцна, аддай нам нашага татачку. Чакаю як хутчэйшага адказу, сэрца маё падскоквае ад радасьці, што бацька Сталін дасьць адказ, я буду перакананая, твая Сталіна дачка, Іра Аляксандраўна Гапанёнак, мне 10 год. Мой адрас: Пауладарская вобласьць, Бескарагайскі раён, сяло Семіяск.

## Пасьляслоўе

Пасьля прыходу саветаў у верасьні 1939 г. адразу пачаліся арышты. Як сьведчыць кніга Натальлі Івановай і Уладзімера Адамушкі пра рэпрэсаваных у Вялейскай вобласьці «Зьлітуйцеся», паводле якой цытуецца гэты ліст, у Пастаўскім павеце была раскрытая контрарэвалюцыйная арганізацыя (ОЗОН) у складзе 14 чалавек. Сярод сяброў арганізацыі быў і Аляксандар Гапанёнак. Чым займалася, згодна з судовым заключэньнем, гэтая група?

1. Праводзіла актыўную прапаганду і агітацыю, накіраваную на ўмацаваньне ў былой Польшчы нацыянал-фашызму.

2. Пад час выбараў ў былы польскі парлямэнт і мясцовыя органы ўлады ў 1938 г., дэлегатамі былі абраныя тыя, якія былі пажаданыя кіраўнічым колам Польшчы і кіраўнікам арганізацыі.

3. Вяла актыўную антысавецкую прапаганду і паклёп на СССР.

4. Умацоўвала каталіцкі касьцёл і праводзіла апалячваньне нацыянальных меншасьцяў...

Большасьць сяброў арганізацыі, сярод іх і бацька дзяўчынкі Аляксандар Гапанёнак, атрымалі па восем гадоў лягераў, іхныя сем'і выслалі ў Казахстан, там апынулася і дачка Аляксандра Гапанёнка Ірэна. Гэтая маленькая дзяўчынка шчыра верыла, што бацьку можна вярнуць...

**А.Г.**

* *Так у тэксьце*

цы прайшло сьледчых справаў па стане на 1 студзеня 1941 г. 4705 справаў, з колькасьцю асобаў 5051 чалавек, скончана 4376 зь іх; накіравана па падсуднасьці на разгляд Асобай Нарады НКВД СССР 4255 справаў, у Абласны суд 17, у Вайсковы Трыбунал 3 справы, спынена папярэднім сьледзтвам 101 справа.

Асуджана 3035 чалавек, вернута афіцыйна на дасьледаваньне Асобай Нарадай НКВД СССР з канкрэтнай спасылкай 35 справаў. Спынена на стадыі папярэдняга сьледзтва, пачынаючы з 17 верасьня 1939 году па 1/1 1941 году па лініі УНКВД, уключаючы і 101 справу на 346 чалавек.

Тэрміны разбораў справаў:

Да 1 месяца – 672 справы

Ад 1 да 2 месяцаў – 848 справаў

Звыш 2 месяцаў — 2856.

Па артыкулах Крымінальнага Кодэксу БССР справы разьмеркаваныя наступным чынам:

па арт. 74 КК БССР – 1888,
па арт. 70 КК БССР – 14,
па арт. 120 КК БССР –1710,
па арт. 64 КК БССР – 452,
па арт. 72 КК БССР – 275,
па арт. 75 КК БССР –17,
па арт. 71 КК БССР –3,
па арт. 63 КК БССР –62,
па арт. 118 КК БССР –12,
па арт. 145 КК БССР –22".

Кажучы пра размах рэпрэсіяў, нельга не згадаць і тых людзей, якіх проста арыштоўвалі і без заключэньня ў турму накіроўвалі ў Сібір і Казахстан. Менавіта так зрабілі і з жонкай польскага афіцэра Франца Кушаля Натальляй Арсеньневай, якая на той час працавала ў вялейскай «Сялянскай праўдзе»: *«...Аднае прыгожае раніцы, калі я толькі ўставала з ложку, каб ісьці зноў у рэдакцыю пасьля недаспанае ночы, у нашыя дзьверы пастукалі ўзброеныя энкавэдыстыя. Яны зь мейсца абшукалі мяне, дарма што я была без сукенкі, і загадалі мне зараз жа зьбірацца з хлапцамі, куды не сказалі...Пасьля перагляду рэчы і пасьцель абы-як зьвязалі ў клумак, і неўзабаве мы ўжо стаялі ў машыне, якая імчала вуліцамі Вялейкі. Шмат такіх машынаў можна было пабачыць у гэты сьцюдзёны золкі дзень 13-га красавіка ў горадзе! Усіх высланых звозілі на станцыю й ладавалі ў даўжэзны таваровы цягнік. Уся станцыя была поўная людзей. Вартаўнікі грубыя, брутальныя; сплаканыя, напалоханыя жанчыны (іх ды дзяцей было 99%); сваякі й знаёмыя, якія, дарма што бальшавіцкія запалохваньні, прыбеглі праводзіць сваіх блізкіх у далёкую нязнаную дарогу, усё гэта мітусілася, пхалася, крычэла й плакала. Энкавэдоўцы шчыльна абкружылі цягнік, але ўсё-той і гэты з натоўпу прарываўся, падбягаў да дзьвярэй вагонаў, падаваў тую ці іншую забытую рэч, бутэльку малака, яшчэ раз разьвітваўся. Нас — ніхто не праводзіў, хоць мы і ехалі ў вялікую дарогу, ня маючы пры сабе нават кавалка хлеба. Ды ці да хлеба тады было?»*

Такіх дэпартаваных з Заходняй Беларусі было, паводле зьвестак беларускага гісторыка Хацкевіча, каля 120 тысячаў (10 лютага 1940 г. за адну раніцу з усіх куткоў Заходняй Беларусі было вывезена 50 тысячаў чалавек, 13 красавіка — 24 тыс., 29 чэрвеня — 23 тыс., 19 чэрвеня 1941 г. — 22 тыс.). Гэта — без уліку жаўнераў Войска Польскага, што апынуліся ў савецкім палоне, а тады — пад Катыньню, у Асташкаве, у Сібіры. Наступная дэпартацыя — «кулакоў», багатых вясковых гаспадароў — была заплянаваная на 20-я дні чэрвеня, але яе сарвала вайна.

Абвінавачваньні для вязьняў турмы былі збольшага надуманыя. Многа людзей арыштоўвалі за пераход дзяржаўнай мяжы — савецка-літоўскай ці савецка-нямецкай. Савецка-літоўская была надуманай мяжой. У выніку прыхамаці Сталіна Вільню з краем перадалі Літве, і край аказаўся падзеленым напалам, сваякі, што жылі ў суседніх вёсках, аказалі-

Працяг на староньцы 8



# У савецкай турме

Вінцэнт ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

Дзьверы камэры раптам адчыніліся, вартаўнікі ўкінулі, як калоду, чалавечае цела й зьнiклі за зьвяканьнем замку й ключоў. Напалоханая цішыня зноў разьлеглася на водДах, хоць праз прамугі закратаваных і заслоненых вакон пачала ўжо пырскаць сакавіковая раніца, кідаючы шэры водблiск на затхлую ад людзкога згушчэньня камэру і вырысоўваючы па кутках панурыя кантуры вязьняў, што тарчэлі з покату целаў. І яны былі спавітыя начной цішынёй і змогай лёсу, хоць фактычна й ня спалі, бо чакалі, калі прыйдзе для іх чарга на роскаш ляжаньня на тым малым лапіку турэмнай падлогі, які на дзьве гадзіны займалі іх сябры.

Кінутае цела глуха шлёпнула па сьпячых на падлозе і лягло на іх нерухома, як бы прыклеілася. Здавалася, што ўсе яны ўжо трупы: і тыя, што моцна спалі, трымаючы на сабе няпрашанае цела, і нават тыя, што стоячы ці седзячы чакалі на сваю чаргу ляжаньня. Так было ўсё зможанае, застылае, нерухомае ў гэтай несамавітай цішыні зьбітай людзкой масы.

Але вось, як глухі водгалас, як гукавы цень пачуўся стогн — «вады»... І хоць ён быў так ціхі, так мала чутны й прыкметны — заварушыў кантурамі стоячых і ляжачых, яны пачалі прыбліжацца да ўкінутага цела, абступілі яго, знайшлі для яго месца, палажылі на звольненым куску падлогі і нават пад галаву палажыць нешта знайшлі.

— «Піць...» — праскрыпелі зноў сасьмяглыя і выкрыўленыя ад болю вусны. Гэты стогн-скрып падзеў мацней ад усякага загаду. Адразу знайшлася конаўка, прайшла праз ланцуг рук і ўвачавідкі апынулася пры вуснах стогнучага. Ён пацягнуў некалькі глыткоў і пачаў ачуньваць. Яго падбітыя вочы абвілі поглядам стоячых кругом сяброў, як-бы шукаючы на кім спыніцца, а твар, хоць зьбіты і акрываўлены, пачаў набіраць азнак жыцьця. Гэта быў беларускі вучыцель Кастусь В. Палякі выкінулі яго ў сваім часе са школы, і ён праз доўгія гады нідзе ня мог знайсьці сабе месца. А як прыйшлі бальшавікі, дык арыштавалі яго аднаго зь першых і вось цяпер мучылі на допытах.

Што ён быў зьбіты да паўсьмерці — нікога не дзівіла. Прайшло ўжо трое сутак, як яго былі забраўшы з камэры. Яго катавалі і ў карцары, і ў часе допытаў. Так паступалі «сьледавацелі» з кожным вязьнем, якога бралі на допыт. Такія ўжо парадкі былі ў Вялейскай турме, якая тады месьціла ў сваіх мурох больш 1000 людзей.



Там, дзе за польскіх часоў седжалі 20 вязьняў, цяпер іх было 60, або й 80. Гэта быў сакавік 1940 году, калі НКВД у «асвабоджанай» Заходняй Беларусі распрасьцерла сваё панаваньне над усімі людзьмі і стрыгла іх безапэляцыйна пад сваю машынку, падцягваючы розныя катэгорыі пад адпаведны нумар. Адных забралі ўжо зараз пасьля прыходу й даўно згладзілі са сьвету, як найбольш небясьпечных. Другіх з гэтай катэгорыі трымалі жывымі ў сваіх мучальнях толькі дзеля таго, што спадзяваліся павялічыць далейшы лік ахвяр. Трэціх, хоць нічым непавінных, трэба было ізаляваць, бо гэта былі людзі думаючыя — інтэлігенцыя з асьветай, або мясцовы вясковы ці гарадзкі актыў.

Яны сваім здаровым розумам і развважаньнямі маглі ўплываць на акружэньне і ўжо дзеля гэтага іх трэба было ізаляваць. Яны звычайна мусілі пасядзець з год у турме, прайсьці сэрыю допытаў, а пазьней «тройка НКВД» засуджвала іх на павольнае кананьне пры цяжкіх работах у савецкіх лягерох. Да гэтай катэгорыі далучалі таксама ўсіх тых, хто быў на службе цывільнай ці вайсковай пры паляках. Апрача таго трэба-ж было набраць на розныя лягерныя прадпрыемствы і «спэцперасяленцаў». Усю тут пералічаную масу людзей мусіла перапусьціць машына савецкай чысткі, гэта была першая перадумова прылучэньня новай краіны да савецкага «раю». Дык нічога дзіўнага, што ўсе турмы былі перапоўненыя да адказу. У камэрах ня толькі не было месца ўсім дзе легчы, але й сесьці на падлозе не было дзе, а спаць прыходзілася па чарзе.

Прабываньне ў камэры ў такіх варунках, плюс вельмі благое аджыўляньне страшэнна падрывалі сілы вязьняў і яны хадзілі як цені. Найгоршым няшчасьцем, аднак, былі допыты, бо яны адбываліся пераважна начамі на працягу цэлых тыдняў зь перадышкай ці без яе і то з усімі атрыбутамі савецкіх паліцыйных маральных і фізычных мукаў. Ахвяра, забраная на ноч на допыт, укідвалася ў камэру чуць жывая над раньнем, як гэта было і з нашым Кастусём.

Ён, небарака, вадзіў вачамі па ўсіх нас — беларусах, што абкладалі яго мокрымі ручнікамі, каб супакоіць ці палегчыць болі; здавалася, што ён хоча выбраць кагось і сказаць яму нешта вельмі важнае. Грамадка наша складалася зь некалькіх чалавек: апрача мяне тут быў старшыня Гуртку Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры з К., Цімафей, два грамадаўцы зь мясцовай акругі — Ш. і З., вучань Віленскай тэхнічнай школы С. і малады асьвечаны земляроб А. У нашай камэры было шмат беларусаў, асабліва сялян, але пералічаная тут група месьцілася разам і была найбольш зжытая. Мы чакалі ў напружаньні, да каго Кастусь зьвернецца й што скажа. Ужо згаварыліся, каб адыйсьціся на хвіліну, пакінуўшы пры хворым таго, да каго ён мае давер. Але згаворы аказаліся лішнімі. Кастусь яшчэ раз правёў па ўсіх нас вачыма й тады вымавіў ціха, але выразна: «дванцаць пяць»... Мы задумаліся, бо ня ведалі, як гэта зразумець, што знача гэтых «дванцаць пяць»? Урэшце пачалі пытаць яго, што ён праз гэта хоча сказаць. Кастусь ляжаў нерухома з заплюснутымі вачыма, як самлелы, а мы стаялі, са зьдзіўленьнем уляпіўшыся ў яго вачыма. Урэшце, не адчыняючы вочы, ён прамовіў зноў: — Я не дзіўлюся, што вы ня ведаеце, аб што ходзіць, бо ў гэтым пекле можна забыцца аб усім, асабліва ж калі ніхто ня сочыць за календаром. Як мяне цягнулі з допытаў, на нас натыкнуўся зьнянацку з-за вугла калідору студэнт Б. зь Вільні з канвоем. Яго зараз жа адвярнулі да сьцяны тварам, але ён усё ж пасьпеў сказаць «дванцаць пяць» і я гэта выразна пачуў. Ня гледзячы на страшэнную слабасьць і боль, я дагадаўся, што хацеў сказаць студэнт Б. Я пэўны, што й вы дагадаецеся, як падумаеце —.

Фактычна ня трэба было й думаць. Некаторыя з нас і так добра ведалі, што на наступны дзень прыпадае 25 Сакавіка, а тыя, што забыліся, адразу прыпомнілі пры ўспамінах аб календары. Непаразуменьне ж адразу вынікла з тэй прычыны, што нікому і ў галаву не прыйшло, што гэты да непрытомнасьці скатаваны беларус здольны думаць у такім стане аб 25-м Сакавіку. Таму цяпер, калі ўсім стала ясна, аб што ходзіць, на гэтага маладога чалавека пачалі глядзець як на сьвятога, як на нейкі сымбаль...

***

На другі дзень уся наша група сядзела амаль цэлы дзень каля Кастуся. Ён чуўся значна лепш, усьміхаўся й браў удзел у гутарках. Гутарылі мы паўголасам, дзелячыся ўражаньнем ды ўспамінамі як праводзілася сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў розных мясцовасьцях і асяродзьдзях. Развражалі над тым, чаму Акту 25-га Сакавіка не ўдалося правесьці ў жыцьцё. Ня гледзячы на панурыя абставіны, на душы неяк было весялей, бо ўрачысты дзень прыпамінаў нам, што мы не адны, што зьяўляемся часткай вялікага неўміручага арганізму — цэлага Беларускага Народу.

Наш пагодны настрой дзеіў нейкім флюідам і на цэлую камэру. Дзякуючы нам, усе нашы сяляне-вязьні ведалі аб беларускім нацыянальным сьвяце, хоць падыходзілі да нас толькі некаторыя зь іх. Мала таго, паміма нашай волі ведалі аб гэтым і іншанацыянальныя групы: жыдоўская і польская. Неяк нечакана падыйшоў да нас б. рэдактар жыдоўскай газэты Р. і, не называючы ўсё іменьнямі, улучыў сказаць асьцярожненька, што ён ведае, што мы сягоньня перажываем, глыбака нам спачувае й ад душы жадае, каб жаданьні нашы зьдзейсьніліся. Пазьней падыйшоў да нас і паляк — б. віленскі судзьдзя Н., які ў гутарцы вельмі нядвузначна таксама склаў нам свае пажаданьні. Нават не абмінуў нас і заўсёды сымпатычны паручнік рэзэрвіста З. — садавод па фаху, які марыў увесь час аб тым, каб папасьці ў Канаду й спакойна гадаваць добрыя яблыкі. Ён заўсёды гаварыў з намі па-беларуску і, здаецца, больш чуўся беларусам, чым палякам.

Не абыйшлося без надзвычайных праяваў і вонках нашай камэры. Ужо ў часе ранішняй прагулкі мы заўважылі на сьценах у розных мясцох напісы алоўкам лічбу «25» і літару «С». Пры набліжэньні груп з розных камэраў чуліся словы «дванцаць пяць» зьнячэўку, хоць гэтыя групы адна другую й ня бачылі. І нічога дзіўнага. Хіба не было тады такой камэры ў вялікай турме, у якой бы не сядзелі беларусы. Супраць нашай камэры сядзеў інжынэр Б. зь некалькімі людзьмі, побач зь ім наш стары й заслужаны дзеяч А.Нэканда-Трэпка (ён ужо напэўна не жыве), праз камэру за ім сядзелі сп. К., У. — і так па ўсёй турме. Былі нават і такія, што хацелі праз вакно вывесіць напісаную на паперы вялікую лічбу 25, аднак ім адрадзілі гэта, баючыся якойсь правакацыі й непатрэбных ахвяр. Затое паўтараньне нявінных словаў «25» нікога ня разіла і не ўзбуджала ніякага падазраньня, і кожны беларус чуў яго ў гэты дзень ня раз.

«25» была для нас доўга магічнай лічбай. Яна нас падтрымоўвала на духу, лучыла ўсіх беларусаў у адну сям'ю, прыпамінала аб безупынным змаганьні, а галоўнае — прыпамінала аб тым, што сядзім мы не прыпадкова.

*Матар'ялы падрыхтаваў да друку Алег Гардзіенка.*

*Аўтар выказвае вялікую падзяку «Рэгіянальнай газэце» і ейнаму галоўнаму рэдактару Аляксандру Манцэвічу асабіста за дапамогу ў падрыхтоўцы матар'ялаў.*

# Вялейская турма

Працяг са старонкі 7

ся па розныя бакі мяжы. Яшчэ больш трагічнай была сытуацыя з новай савецка-нямецкай мяжой. Некалькі дзясяткаў тысяч жаўнераў Войска Польскага ці апынуліся ў нямецкім палоне, ці прабіваліся з акружэньня. Тыя, каму пашчасьціла зьбегчы з палону ці мінуць нямецкія блёк-пасты, вярталіся на Бацькаўшчыну, у тым ліку і Вялейшчыну. Але тут іх чакала жорсткае расчараваньне, усе яны былі арыштаваныя савецкімі і абвінавачаныя ў шпіянажы на карысьць замежных выведак.

Бараноўскую Гертруду, жыхарку вёскі Пенцялі Ашмянскага раёну, арыштавалі за тое, што яна *«ведала пра існаваньне паўстанцкай арганізацыі, што існавала на тэрыторыі Ашмянскага раёну і ставіла задачы зьвяржэньня ўзброеным шляхам савецкай улады і ўзнаўленьня польскай дзяржаўнасьці на тэрыторыі Заходняй Беларусі, і не паведаміла пра гэта»*.

Арыштаваных у турме катавалі. Зьвернемся да ўспамінаў Эдварда Колпака: *«У тым часе ўсе павыходзілі з пакою, застаўся толькі я і мой сьледчы Кацо. У цэлым будынку панавала суцэльная ціша, бо была ўжо глыбокая ноч. Кацо адчыніў шуфляду бюро і выняў пісталет і гумовую палку. Дула пісталета скіраваў на мяне і зароў: «Калі не падпішаш, то заб'ю цябе як сабаку» — але я паўторна адказваю, што ніякай паперы не падпішу, можна мяне нават забіць. Зараз разлаваны Кацо падскочыў да мяне і пачаў страшна зьбіваць палкай, пакуль не стаміўся, потым ударыў мяне ў патыліцу так, што я зваліўся ніц, а ён далей біў мяне ляжачага ботамі, біў па жываце, твары, усім целе, біў так, што зламаў насавую перагародку, потым усеўся на мяне і біў палкай, урэшце калі я згубіў прытомнасьць, ён выцягнуў мяне да прыбіральні, што знаходзілася насупраць па левы бок калідора, там абліў мяне халоднай вадой, я апрытомнеў. Калі я расплюшчыў вочы, дык пабачыў, што ляжу ў прыбіральні, а Кацо палівае мяне вадой. Потым Кацо дапамог мне ўстаць і правёў мяне да свайго кабінэту, загадаў мне сядаць у тое самае крэсла і зноў пачаў мучыць мяне, каб я падпісаў той няшчасны пратакол, на што я адказаў, што я не падпішу, і што ён можа мяне забіць, але я не падпішу. Разлаваўшыся на маю станоўчую адповедзь, падбег да мяне і пачаў біць гумовай палкай па галаве, твары, а найчасьцей па нагах, вышэй каленяў...»*

Эдвард Колпак не адзінкавы, такіх былі сотні ў Вялейскай турме. Толькі што, у адрозьненьне ад іншых, ён выжыў і пасьля занатаваў свае ўспаміны, якія пазьней былі выдадзеныя кнігай.

Здавалася, нішто ня спыніць сталінскую мясарубку. Але спыніла вайна.

**Алег Раявец**

**Усе гэтыя зьвесткі прыводзяцца паводле кнігі Кшыштафа Папіньскага, Аляксандра Какурына і Аляксандра Гур'янава «Дарога сьмерці. Эвакуацыя савецкіх вязьніцаў з Крэсаў Усходніх II Рэчы Паспалітай у чэрвені й ліпені 1941 году» (на польскай мове). Варшава. Karta, 1995.*




Здымак IREX/PROMmedia

Віктар ШНІП

# НА ВАКЗАЛЕ...

У маіх Пугачах вакзал — звычайны аўтобусны прыпынак каля крамы, у якой заўсёды можна купіць пляшку і тое-сёе, каб прыкусіць. І няма ў вёсцы ніводнага чалавека, які б рана ці позна не прыйшоў сюды. Тут і цалуюцца, тут і б'юцца. І, будучы хлапчуком, я абходзіў наш вакзал, калі на ім былі старэйшыя вяскоўцы. Быць на вакзале як роўнаму сярод роўных трэ было заслужыць — магчы і пяць грам самагонкі пацягнуць, і цыгарку запаліць, і пабіцца... І толькі недзе ў клясе сёмай мяне прынялі ў вакзальную кампанію, але й то таму, што хлопцы даведаліся, што я пішу вершы. І прыходзіў з Валожына аўтобус, а мы ўжо тут як тут. Ня нашых часам білі (ня думаючы, за што), нашых дзяўчат палохалі, а калі ўжо зусім цямнела, залазілі праз вокны ў аўтобус, які заставаўся на ноч на вуліцы, і там гулялі ў карты і курылі. І гэта было даўно, але гэта было...

На вакзале ў Ракаве, пачынаючы з 1978 году, гадоў сем запар мяне можна было ўбачыць кожную пятніцу недзе з адзінаццатай гадзіны раніцы да пятнаццатай, калі прыходзіў аўтобус з Валожына ў Пугачы. Праз некаторы час у Ракаве мяне ведалі ўсе, як я кажу, жулікі. Многія прыходзілі спэцыяльна, каб пазнаёміцца і разам з паэтам выпіць чарніла. Адмовіцца ад кантакту было нельга, бо адзін раз быў заікнуўся, што ня п'ю і пачуў: «Ну, тады мы цябе ўтопім у возеры!» І сядзеў я на Ракаўскім вакзале, як кароль на аманінах...

З 1980 па 1985 год раз у месяц я езьдзіў зь Менску ў Валожын, каб праводзіць літаб'яднаньне ў раёнцы. На літаб'яднаньні пазнаёміўся зь Пятром Бітэлем зь Вішнева, які на валожынскім вакзале мне ўпершыню расказаў, як у сталінскай вязьніцы перакладаў «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча і зялёнкай запісваў на паперы ад мяшкоў з-пад цэмэнту. Праляцеў час, і няма ўжо Пятра Бітэля і тых размоваў (а яны былі больш сьмелымі, чым у раёнцы) на валожынскім вакзале пяці-сямі чалавек, якія пішуць вершы па-беларуску і мараць...

Цэнтральны менскі чыгуначны вакзал з 1978 па 1985 год для мяне быў, асабліва зімой, самым лепшым месцам у горадзе. Я тады нідзе не працаваў і на вакзал езьдзіў, як на працу. З сабой заўсёды меў палатняную торбачку, у якой былі кніжкі і сшытак, куды пісаў вершы. Сядзеў на вакзале па тры-чатыры гадзіны ў дзень. І ўсё было добра, пакуль да ўлады не прыйшоў Андропаў і не пачаў змагацца з тунеядцамі. І мне на вакзале стала няўтульна, і я вырашыў ісьці здавацца ў міліцыю. Магчыма б здаўся, але памёр Андропаў, і я зноў адчуў сябе чалавекам, які можа сядзець на вакзале і нікуды ня ехаць...

Еду на працу праз вакзал. Іду чы ў мэтро, мінаю ўчарнелых таксістаў. Чую, як яны ўгаворваюць мужыка пад'ехаць: «Куды трэба?» — «Да ўнівэрмагу «Беларусь»... — «Пяць зялёных!» — «Што, здурэлі?!» — «Давай чатыры!», «Я на мятро заеду...», «Едзь!», «А за два?», «Ну, хер з табой, паехалі за два!» І я заходжу ў мэтро, як у іншы сьвет, дзе ніколі ня будзе сонца...

На вакзале цыганкі не даюць праходу: «Хлопец, можна ў вас што-та спрасіць?» У думках пасылаеш цыганку куды трэба і ідзеш сабе далей. А гадоў дваццаць таму, ні з таго ні зь сяго, я трапіў у цыганачную кучу. Да мяне падсела цыганачка гадоў васямнаццаці, нечага нагадала (ня памятаю, чаго) і я, успомніўшы Пушкіна з цыганамі, чытаў ёй свае вершы. А яна сьмяялася і казала: «Паехалі з намі, не пашкадуеш...»

З Масквы, зь Беларускага вакзалу, дахаты любіў езьдзіць цягніком «Масква-Вільня». І заўсёды ехаў зь літоўскімі хлопцамі, якія вучыліся са мной у літінстытуце. Ідзем у вагон-рэстаран. Чарга, але адразу пускаюць тых, хто гаворыць па-літоўску, а астатнія толькі вачыма лыпаюць. І я сяджу зь літоўцамі. П'ю каву і балдзею ад гэтых расейцаў, якія хочуць узяць выпіць, але ня могуць...

1984 год. Чыгуначны вакзал у Тбілісі. Еду на Дні паэзіі Маякоўскага ў Кутаісі. З сабой маю крыху грошай. І тут падыходзіць ці то цыганка, ці то грузінка і прапануе купіць вязаны швэдар атрутна-зялёнага колеру. Згаджаюся адразу, бо ўсё адно трэба купіць маме які-небудзь падарунак. На месцы не прадала, а адвяла за вугал, каб міліцыя ня бачыла. Я насьцярожыўся, але купля прайшла нармальна. Мама падарункам была задаволеная. Але праз нейкі тыдзень ад швэдра застаўся толькі жмук аблезлых нітак.

26 красавіка 1986 году, прыехаўшы з Масквы на чарговы зьезд пісьменьнікаў, давялося сустрэць у Менску. Ужо на пачатку траўня, ад'яжджаючы назад на вучобу, на вакзале пачуў ад мужыкоў, што, каб уратавацца ад радыяцыі, трэба піць чырвонае віно. Пакуль ехаць, абабег крамы і купіў пару бутэлек «Кагору». Тут жа на вакзале палячыўся з адным знаёмым, які праводзіў мяне. І, ужо прыехаўшы ў Маскву ў інтэрнат і перамыўшы ўсё сваё адзеньне, я зьняў з ног пантофлі і шкарпэткі і выкінуў іх у сьмецьцеправод. Мне было дваццаць шэсьць і мне хацелася жыць...

Пры саветах, калі людзей, трэба ці ня трэба, пасылалі ў камандзіроўкі, паслалі і мяне. А на вакзале няма білетаў. Пытаюся ў знаёмага, што цяпер рабіць. А ён (гэта было зімой) надзеў пыжыкавую шапку, падышоў не да білетнай касы, а да акенца нейкага начальніка, прывітаўся, сказаў, што ён з Саюзу пісьменьнікаў і яму трэба білет на цягнік. І тут жа праз хвілю ў мяне быў білет...

Шэсьць гадзінаў раніцы. Сяджу на вакзале, чакаю аўтобус у вёску. Побач сядае дзяўчына гадоў дваццаці. Дастае з сумкі кніжку. Чытае. Гляджу — вершы, беларускія. Яўгеніі Янішчыц. І мне хочацца загаварыць зь незнаёмкай, але...

На вакзале...

# ДЭКАНСТРУКЦЫЯ ВАКЗАЛУ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

Вакзал — вузел.

Вузел дарог, нэрвовы вузел мэгаполісу, вузел, які ўскідвае на плечы правінцыял-мігрант...

Толькі на вакзале існуе такая непаўторная аўра — трывогі і чаканьня, тугі па тым, што пакідаеш, і па тым прыўкрасным, што ёсьць недзе там, далёка-далёка...

Ты паглыбляесься ў гэтую аўру пульсуючай трывогі нават тады, калі зайшоўся на вакзал выпадкова... Юныя закаханыя любяць прыходзіць на вакзал, сустракаць і праводзіць цягнікі. Напэўна, у гэтыя моманты, сярод віхуры чужых расстаньняў і сустрэчаў абвастраецца радасьць ад таго, што ты — не адзін, і боязь растаньня...

Вакзал — прыдумка цывілізацыі, так званага «новага часу», калі Голем мэханістыкі пачаў слугаваць насельніцтву Сусьветнага гораду, каб неўпрыкметператвараць чалавека ў свайго раба. Да гэтага Шлях заўсёды пачынаўся ад парогу ўласнага дому. Цяпер між Шляхам і Домам існуе вакзал — сучасная мэтафара сутнасьці чалавечага быцьця. Інфэрнальны стан гасьцяваньня між не-быцьцём і іншa-быцьцём. Чарговая спроба цывілізацыі ўпарадкаваць, кантраляваць, структураваць усе рухі асобнага індывіда — ад руху думкі да перасоўваньня ў прасторы.

На вакзале ўсё незвычайнае. Любая пабытовая дробязь набывае вакзальны «прысмак» — ад гарбаты ў буфэце да крэсла ў пачакальні, падобнага да жоўтай сагнёнай далані. Паскораны пульс гэтага месца («вакзал» — гэта ж ня толькі «будынак») прымушае галасы гучаць грамчэй, рухацца нейкімі перабежкамі.

А «голас з вышыняў», гэты мэталёва-няўмольны, раскацісты голас вакзальных абвестак — хіба магчыма на яго забыцца? Напэўна, многія спрабуюць уявіць сабе жанчыну, чые галасавыя зьвязкі служаць інструмэнтам для стварэньня Вакзальнага Голасу. Цікава, ці знаходзіўся такі вычварэнец, які мог закахацца ў гэты Голас і яго нябачную носьбітку? Я разумею, што ў рэальнасьці яна можа быць прывабнай і нават вытанчанай... Але мне увасабленьне Голасу мне яна ўяўляецца постацьцю з плякатаў канструктывістаў 20-х — зубастая баба ў чырвонай хустцы з рэвалюцыйным аптымізмам гарлае «Слу-у-хай!»

Але на вакзале кожны слухае сябе. Бо вір гукаў, мноства чужых аповедаў раздрабняюць увагу, расшчапляюць асобу, і інстынкт самазахаваньня прымушае засяроджвацца на ўласных адчуваньнях...

Але доўгае знаходжаньне на вакзале зьмяняе чалавека, асымілюе да вакзальнай аўры. Раптам перастаеш сьпяшацца, нібыта апускаесься на дно віру, скідваеш абутак, уладкоўваеш стомленыя ногі на чамадан ці пустое крэсла насупраць і з паблажлівай цікавасьцю назіраеш за вакзальным жыцьцём. Твой шлях адкладаецца на пэўны прамежак часу, і гэты час належыць найхутчэй забіць. А хвіліны марудзяць, як вадзяныя кроплі ў кітайскім катаваньні. І ты адчуваеш, што ты тут — назаўсёды, што нічога іншага ня можа быць, акрамя гэтай жорсткай, выгнутай пад табою плястыкавай далані крэсла, акром гэтых людзей з заспанымі тварамі на суседніх крэслах, акром вакзальнага абвесткавага Голасу, гэтага Фатуму, які прымушае кагосьці зноў ускідвацца ў вір мітусьні і скіроўвацца ў шлях... Куды зьнікаюць гэтыя людзі? Ты ніколі іх больш ня ўбачыш, значыць, яны для цябе ўсё адно што паміраюць... Як і ты для іх. Таму вакзал — месца споведзі і злачынства.

Вакзал — квінтэсэнцыя грамадзтва. Усё, што адбываецца ў грамадзтве, набывае гіпэртрафаваныя рысы на яго вакзалах. Самыя танныя жанчыны, самыя падазроныя напоі, самыя абадраныя жабракі — гэта вакзал. Сюды першай прыходзіць вайна. Нават чужая — яна зьяўляецца з уцекачамі, з мурзатымі смуглявымі дзецьмі, з маўклівымі кабетамі, захутанымі ў шчыльныя хусткі па самыя вочы.

На вакзале канцэнтруюцца тыя знакі, якімі горад ці краіна спрабуюць кадыфікаваць сябе ў сусьветнай сыстэме кодаў. Гэтыя знакі апрацаваныя маскультурай да стану кічу — яркія паштоўкі з выявамі помнікаў мясцовай архітэктуры, узоры народных рамёстваў, выканаваныя фабрычным спосабам ды іншыя «сувэніры»... Акром як на вакзале, іх ніхто нідзе не купляе.

Але на вакзале, у гэтай прамежкавай краіне, ёсьць сваё сталае насельніцтва. Гэтак жа, як ёсьць жывыя арганізмы ў гейзэрах — дзіўныя рыбкі, інфузорыі, водарасьці, што звыклі да павышанай тэмпэратуры й вечнага віраваньня. Але як насельніцтва гейзэра вымушанае з усяе моцы чапляцца за цьвёрдую паверхню, каб ня зьнесла гарачай плыньню, насельніцтва вакзала тулiецца па неасьветленых кутах і прывакзальных сквэрыках, зьмешваецца з вакзальным натоўпам, і кожны заўсёды гатовы патлумачыць, куды едзе і якога цягніка чакае, хаця зазвычай ехаць яму няма куды. Гэта паразыты вакзалу, якія харчуюцца яго адкідамі.



Здымак IREX/PROMmedia

Асобная катэгорыя — тыя, хто працуе на вакзале. Гэта, напэўна, гэтак жа сумна, як працаваць у ЗАГСе. Памірае сьвята, паміраe выключнасьць у бясконцым паўтарэньні. Нельга з году ў год, дзень пры дні далучацца да радасьці чужога вясельля, і немагчыма дзясяткі разоў на дзень хвалявацца ад прыбыцьця й адыходу цягнікоў, тым больш, што гэта тыя самыя цягнікі і тыя самыя брыгады машыністаў. Праклятыя прагрэс разьвянчаў рамантыку шляху, разьбіўшы яго на структурныя элемэнты. Вы заўважалі, што ў цеплавоза — дзьве кабіны, адна сьпераду, другая ззаду? Як у дажджавога чарвяка, які, перасечаны напалам, адрошчвае адной палове — галаву, другой — хвост. Цеплавоз ніколі не разварочваецца. Для яго няма паняткаў пераду ці заду, вяртаньня ці ад'езду. Ён ведае толькі адрэзак між двума вакзаламі.

На вакзале асаблівае значэньне набывае час, і час на вакзале — асаблівы. Ён спатыкаецца праз няроўныя прамежкі аб нацягнуты дрот неабходнай падзеі, ён загнаны ў жорсткія сеткі графікаў і раскладаў. Няма прыроднага падзелу на раніцу, дзень, надвячорак ды іншыя, няпэўныя і сузіральныя інстанцыі... Няма прыблізнасьці, нясьпешнай акругленасьці лічбаў — толькі бязьлітасная дакладнасьць: стаянка цягніка тры хвіліны... Адпраўленьне ў шаснаццаць гадзін пяцьдзясят чатыры хвіліны... Вакзальны Голас прэпаруе час на дэталі, зь якіх складаецца сустаўчатае цела раскладу...

Горад без вакзалу немагчымы. Вёска, якая мае эмбрыён вакзалу ў выглядзе прыпынку прыгараднага аўтобуса ці станцыі электрычкі, носіць у сабе вірус урбанізацыі, які выбаўляе зь вёскі дзяздольную моладзь.

Дарэчы, назва «вакзал» паходзіць з XVII ст. ад назвы забаўляльнай установы каля Лёндану... Але першыя вакзалы зьявіліся толькі ў XIX ст. Назва, як карнавальная лічына, прыкрыла мэталёвы твар вакзалу-кібарга Новага часу... Гэтак жа, як рамантычны флёр ахутвае выправленьне ў Шлях... Хаця, паводле Фройда, сымбалем ад'езду ў цягніку наша падсьвядомасьць зашыфроўвае паміраньне.

# УВАСКРАШЭНЬНЕ РАГНЕДЫ

***Сёлета спаўняецца тысяча гадоў, як заснула вечным сном князёўна Рагнеда. Гэтая дата магла б мінуць амаль незаўважанай, каб не паўстала ідэя адзначыць яе нетрадыцыйным чынам – скульптурным пленэрам “Легенда зь пяску”. Пленэр мог бы стацца чарговым зборам мастакоў, каб не найграндыёзьнейшая ідэя, што апанавала выкладніка Рэспубліканскага каледжу мастацтваў (г.зв. Парнату), колішняга “майстроўца” Генадзя Лойку. Пра ідэю ён з ахвотаю распавёў у інтэрвію нашаму карэспандэнту.***

— Гісторыя праекту сягае таго часу, калі я працаваў мастаком у гістарычна-археалягічным запаведніку “Заслаўе”. Менавіта тады я захапіўся заслаўскімі легендамі й паданьнямі, у прыватнасьці, паданьнем пра тое, што наша першая вядомая князёўна пахаваная ў ваколіцах Заслаўя. У 1991-93 гады я быў у “азгурантуры” – гэтак называліся сярод мастакоў, якія там вучыліся, Творчыя акадэмічныя майстэрні Міністэрства культуры, ачольваныя Заірам Азгурам, гэта было нешта кшталту асьпірантуры. Дык жа там трэба было абавязкова па сканчэньні навучаньня пакінуць сваю працу. Я спачатку абраў тэму Рагнеды й Ізяслава, дзеля таго каб зрабіць помнік для Заслаўя. Але чамусьці ў мяне нічога не выходзіла. Тады аднойчы зайшоў Азгур і, убачыўшы мае нікчэмныя патугі, сказаў: “Рагнеда – гэта жанчына, яе трэба палюбіць, тады атрымаецца”. А праз пэўны час я ўбачыў, як на камбінаце робіць помнік Рагнеды Анатоль Арцімовіч. “Ну, як робіць, дык і паставіць”, – памеркаваў я. І праўда, яго паставілі ля кінатэатру “Сьвітанак”, на самай ускраіне Заслаўя, пры канцы вуліцы Савецкай, куды амаль ніхто з прыезных ня ходзіць. А я тады пакінуў ідэю стварэньня помніка Рагнеды. Да пары.

І вось залетась я ладзіў сваім вучням практыку на пяску. У часе тэй практыкі заданьнем было “адкапаць” зь пяску волатаў – даць магчымасьць дзецям паспрабаваць сябе ў манумэнтальнай скульптуры. Мы знайшлі сьцяну кар’еру ў Заслаўі й “адкапалі” Рагнеду, Сьфінкса ды Сьвінкса – беларускага сваяка славутай эгіпэцкай міталягічнай істоты. Тады ж пастанавілі штогод “адкопваць” розных гістарычных ды міталягічных асобаў, а гэтаксама шторазу “новую” Рагнеду.

***— А чаму менавіта Рагнеду?***

— Бо Заслаўе поўніцца гэтай легендай. Летась нічога не ўдалося зрабіць, а сёлета, у тысячагодзьдзе ад моманту сьмерці славутае палачанкі, трэба зрабіць абавязкова! Гісторыкі ж ня ведаюць, дзе ляжыць Рагнеда, а мы возьмем ды “адшукаем” тое месца, і “адкапаем” князёўну. Кашкурэвіч Тодар сказаў на гэта: “Навошта?! Як ты сьмееш?! То ж князёўна пахавана, ляжыць спакойна, як ты можаш раскопваць?!”, пакуль я не патлумачыў яму, што ўсё мае быць “віртуальна”, зь пяску.

***— Калі мяркуеце зладзіць гэтае “адкопваньне”?***

— 29 чэрвеня група скульптараў выедзе ў Заслаўе для ўладкаваньня, а 30 пачнём капаць. “Адкапаем” 2 ліпеня а трэцяй гадзіне ўдзень. Сотні пакаленьняў даносілі да нас адно легенду пра Рагнеду, і толькі 2 ліпеня надарыцца магчымасьць убачыць яе на свае вочы. Запрашаюцца ўсе. Гэта будзе ўнікальная падзея, бо неўзабаве пясчаная постаць князёўны разьвеецца й зьнікне зноў на тысячу гадоў.

***— А ці ня будзе перашкодаў з боку заслаўскіх уладаў?***

— Што да выкарыстаньня пяску з кар’еру, дык пра гэта дамоўлена з дырэктарам Заслаўскага драбільна-сартавальнага заводу, што ссыпае для сябе пясок у кар’ер. Але пакуль ён ім не патрэбны, дык мы можам вольна з гэтае магчымасьці карыстацца. Дасланыя паперы на Беларускую тэлевізію – спадзяёмся, што й яны прыедуць. Адзінае, што мы з свайго боку патрабуем, гэта каб вялася перадача па-беларуску. Калі будуць знойдзеныя грошы, дык плянуецца арандаваць самалёт, што даў бы магчымасьць усім ахвочым (праўда, за грошы) агледзець скульптуры з вышыні; для журналістаў гэта мае быць бясплатна. Па ўрачыстым “адкопваньні” постаці Рагнеды будзе зладжаны бардаўскі канцэрт, і, калі на тое будзе ласкавая згода Ларысы Сімаковіч, дык быў бы й выступ ейнага ансамблю “Госьціца”.

***— А як патрапіць ахвочым наведаць пленэр на кар’еры?***

— Кар’ер месьціцца ля Заслаўя, за вёскаю Кладачкі. Можна прыяжджаць у Заслаўе цягніком зь Менску, разам зь дзецьмі й сябрамі. Адмыслова запрашаю ўсіх сяброў з «Майстроўні» і “Талакі”. Пэўна, нехта будзе сустракаць усіх прыезных на заслаўскай чыгуначнай станцыі “Беларусь”, гэтаксама пра месца пленэру інфармавацьмуць паказьнікі.

**Гутарыў Віктар Мухін**

**P.S.** Генадзь Лойка просіць патэнцыйных фундатараў і ўсіх, хто чым-кольвечы мог бы дапамагчы ў ажыцьцяўленьні праекту, зьвяртацца на тэлефон Гістарычна-культурнага музэя-запаведніка “Заслаўе”: 544-11-70.



Людка СІЛЬНОВА

# ВАЯРСКІЯ ВЕРШЫ БЕЛАЙ ПОЎНАЧЫ

*Шматкроць — крыж-накрыж! —*
*амбітна*
*(Зброя — ня мае значэньня!),*
*З Духам нябачным злучэньне,*
*Салодкая лёткасьць!..*
*Балюча*
*Ўспыхвае рана ці ружа.*

## Раўнавага

*Шляхецтва, гонар і адвага...*
*Не — раўнавага.*

*Міжбой! Рунічны крыж*
*са шпагаў!..*
*Не — раўнавага.*

*Каханьня келіх... Жарсьць*
*і смага...*
*Не — раўнавага.*

*Царам патрэбна і бадзягам*
*Ты, раўнавага!*

*Сьвет — вольны! З грэкаў —*
*у варагі!..*
*Мне б... раўнавагі...*

## Другі

*Я зазірну*
*ў чароўную ваду —*
*і сябе не знайду!*

*Бачу я толькі*
*Свайго каханьня*
*Адлюстраваньне.*

*Гэты празрысты*
*Блізкі мужчына —*
*Страху прычына.*

*(«Ціха пакліча —*
*Я нахілюся.*
*І — утаплюся...»)*

*Нашто адабраў*
*Мой спадчынны твар*
*Сварожа-Сутвар?*

*Гром Перуновы!!*
*І словы Сварога:*
*«Каб зьведаць Другога!»*

## Голас

*Слухаючы песьні старых ваяроў*

*Ты — Голас глыбіняў лядовых,*
*Балтыцкіх, ваярскіх, мядовых.*

*Трывожных — як сосны і камень.*
*І прагных — як коні і кані...*

*Ты — музыка рызыкі птушак,*
*Што крыламі мора разьюшваюць.*

*Ваўчыная песьня начная.*
*Ангельцаў баляда старая.*

*У шафе адзеньне сваё разьбяры —*
*Убачыш і плашч запаветны*
*стары.*

## Люблю!

*Жанкі кахалі птушак і зьвяроў.*
*А я — малодшага*
*з тутэйшых ваяроў!*

*Люблю яго зялёны плашч і шчыт,*
*Той, на якім*
*Ярылаў крыж блішчыць!*

*І вочы — моры,*
*поўныя бурштыну,*
*У якім я дробнай жамярою*
*стыну...*

*Люблю юначы, незалежны дух,*
*Спружынны час і рытуальны рух!*

## Паўночны баль

*Сюды ў Паўночную сталіцу*
*На баль багоў*
*Вятроў нябачных калясьніцы*
*Імчацца зноў.*

*І зноў са мною Дух жартуе,*
*І ў новым сьне*
*Пад маскай новаю спрабуе*
*На моц мяне.*

*Абліччам — юны вой з дазору,*
*Бурштын вачэй,*
*Ня бровы — птушкі лёт*
*над морам,*
*Дзе край ярчэй...*

*Але скрозь плоць, як шкло,*
*я ўбачу*
*Другі абрыс.*
*Спляценьне рысаў, знак, задачу,*
*А не капрыз!*

*Трымае сьвечак рад трыножак.*
*Столь множыць іх.*
*Як гэта музыка трывожыць*
*І лашчыць слых!*

*Выяў шляхетных трапятаньне*
*(«Сойм ці сям'я..»)*
*Кальне й запляміць стан*
*пытаньне:*
*«Чаму тут — я?»*

*Маланка ў блакітным бурштыне*
*Ты — песьня ў тумане,*
*Маланка ў блакітным бурштыне,*
*Які — не ўтрымаць мне,*
*Ля сэрца свайго — не пакінуць!*

*Пакласьці ў куфэрак*
*Свайго чараўніцтва-паэтва?*
*Яму там — ня ўлежаць:*
*Растане і зьнікне навечна!*

## Нетэлефанаваньне

*Маўчыць апарат.*
*Як манах акурат —*
*Чорны, стары і маўклівы.*

*Зьмейка ў клубок —*
*Хвост у раток —*
*Сьціснула плоць палахліва...*

*— Веды, дзе вы?*
*— У цёмнай вадзе.*
*Там, дзе туман і поўня.*

*Хваля зьбяжыць —*
*Мілы ляжыць*
*У глыбіні невымоўнай.*

## Барусія

*Барусія — паўночны баль,*
*Палац з ільду і чар крышталь.*

*Барусія — гняздо арлоў:*
*Германскіх, рускіх ваяроў.*

*Ты ўскалыхала Беларусь,*
*Сваю дачку. — Крывую Русь.*

*Ты ёй каня і меч дала*
*І ў Шлях да Неба правяла...*

## Мова-мора

*О Мова! Ты — Мора,*
*Балтыцкае, бурштынавае!*

*Вецер хвалі расьцяў, —*
*Як у люльцы дзіця —*
*У табе калыхаецца Слова!*

## Камень і час

*Мохам пакрые майго каханьня*
*Зь пісьмёнамі камень.*

*Іх не прачытае дзяўчынaчка,*
*птушка,*
*Зуброўна-цялушка...*

## Дзьвіна

*Дзьві-на... На подзьвігі яна*
*Ўскалыхала*
*На берагох сваіх —*
*Зялёных, ціхіх,*
*як паўночны ўздых —*
*Сыноў нямала.*

*Дзьві-на... На зрух заве яна!*
*Заве на бой! «—Рубон!»*
*Яна ваду імчыць, ядна-*
*ючы Стралу і Звон.*

*Дзьвіна — на подзьвіг-зрух яна*
*Ўжо іменем заве!*
*Там сонцаў пазірае круг*
*З-над Волата ў Траве.*

## Знак часу

*Ня ведаю, як вы,*
*а я, скажу адразу,*
*Жыву — ніжэй травы —*
*у міталягічным часе.*

*Там, дзе зьмейка дзён*
*скручваецца ў колца,*
*Дзе працалюбны бог*
*Сварог, Ярыла-Сонца.*

*Там, дзе годнасьць*
*Воля і роднасьць*
*(...»За нашу і вашу свабоду!»)*
*Дзе пакланяюцца Ладзе і Роду.*

*Дзе ваярства творчасьцю,*
*творчасьць — ваярствам,*
*Найвышэйшаю тайнаю —*
*рухі і малярства...*

*І дзе ваяр*
*зьмяю не забівае,*
*А на шчыце*
*як часу знак трымае!*

## Рускія руны

*Рускія руны —*
*тонкія рухі,*
*звонкія гукі*
*з водарам руты...*

*«Хукне холадам —*
*памруць з голаду.*
*Русы і руны —*
*у гусьлі і струны...»*

*Рускія руны —*
*небныя духі.*
*Зялёнаю руньню*
*белыя русы.*

*Белыя косы*
*ў Сонца і Месяца.*
*Руны і русы*
*ў Волхаў ня вернуцца...*

## Паядынак

*Міжбой, паядынак,*
*Ядананьне адзінак,*
*Закрэсьліваньне перажытага*

НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Даведнік беларускага журналіста**/ Пад рэдакцыяй В.Вячоркі, П.Фэнрыха. — Шчэцін — Менск, 1999. — 198 с.

Кніга паўстала ў выніку цыклю беларуска-польскіх сэмінараў, зладжаных Фундацыяй разьвіцьця лякальнае дэмакратыі (Шчэцін) і цэнтрам «Супольнасьць» (Менск) для маладых беларускіх журналістаў. Кніга зьмяшчае парады як у спосабе напісаньня тэкстаў і рыхтаваньня матар'ялаў, гэтак і ўва ўнікальні моўных памылак (гэтай тэме прысьвечаныя тэксты Пётры Садоўскага й Вінцука Вячоркі). У аздобе вокладкі выкарыстаны адзін з нумароў «Нашае Нівы».

**Кантакты й дыялёгі. № 4-5** (52-53), красавік-травень 2000. — Менск, 2000. — 64 с. — Наклад 299 ас.

Палова нумару прысьвечана чарговаму Кангрэсу беларусістаў, што нядаўна адбыўся ў Менску.



**Arche. № 3** (8), 2000. Габрэйскі нумар. — Менск: 2000. — 296 с. — Наклад 1200 ас. ISSN 1392-9682

Нумар пра беларускіх жыдоў пры канцы XX ст.: мастацкае люстэрка ўнікальнай цывілізацыі.

І.Навуменка. **Раньні Кузьма Чорны** (1923-1929). — Менск: Беларуская навука, 2000. — 95 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-08-0356-8

У кнізе разглядаюцца тыя творы «беларускага Дастаеўскага», што найчасьцей абміналіся крытыкаю.

**Агляд падрыхтаваў Віктар Мухін**

Уладзімер Арлоў

# НІДА І ВАКОЛІЦЫ

## Зацемкі з розных кішэняў

### ТОСТ

Будынкі і дрэвы, кветнікі і лавачкі, людзі і чайкі — усе жывыя істоты і рэчы тут выпраменьваюць спакой і небудзённую значнасьць. Няблага атрымліваецца нават у людзей і сьметніц.

Пасьля першых келіхаў чырвоненькага ты згадваеш старажытную вэрсію, паводле якой выгнаньня з раю насамрэч не адбылося, ці, дакладней, яно зьдзейснілася адно ў мэтафізычным сэнсе: Бог проста пазбавіў чалавека разуменьня, дзе ён, чалавек, жыве.

Асабіста табе бліжэй меркаваньне, што наш сьвет — усяго толькі чысьцец. Але нават калі гэта і так, наведаць ягоны куток, які завецца Нідаю, відаць, усё роўна варта. Хаця б дзеля таго, каб, седзячы ў кавярні на беразе затокі і гледзячы на незварушную чаплю, неспадзявана ўзьбіцца на размову пра тое, што ў Бога, магчыма, значна меней, чым табе ўяўлялася, спагады, затое значна болей гумару ды іншых, усім чалавечых схільнасьцяў і слабасьцяў.

А за здароўе такога Бога трэба абавязкова выпіць чырвоненькага.

### ЦІШЫНЯ

Сюды ўжо прыйшла эўрапейская цішыня, не азмрочаная і ценем небясьпекі таго, што на вячэру табе прапануюць дзьвюхтрохгадзінны тэлевізійны амлет з нармальных чалавечаскіх яіц з вусамі, ушывымі блохамі і труднасьцямі на пасяўной.

Эўрапейская цішыня абавязкова пазбаўленая расейшчыны і ейнага найгоршага, ~~пасьля мату, увасабленьня~~ — расейскае папсы. Цалкам верагодна, што тут таксама ёсьць «девочки, которые хотят», але ты ніколі не даведаесься пра гэта праз дынамікі.

### SOMMERHAUS VON THOMAS MANN

Томас Ман неабачліва заарэндаваў сабе тут на 99 гадоў кавалак зямлі і ў 1930-м збудаваў у Нідзе, на ўзгорку над затокаю, Sommerhaus на два паверхі.

Брунатны дом зь белымі вокнамі, блакітнымі аканіцамі і гэткага самага колеру вільчыкам над таўшчэзнаю чарацянай стрэхою з прычолкам — ужо даўно музэй, адзін з наведнікаў якога дзеліцца са спадарожніцаю ўпэўненасьцю, што аўтар «Доктара Фаўстуса» проста ня мог хоць раз не пайграць сваю Кацю на вось гэтым чорным раялі.

### ВЫДМЫ

Зноў і зноў на беражок
Тонкай выдмаю пясок
Вольны вецер сьцеле... —

ня вельмі выразна напісаў неяк Анатоль Вялюгін, бо складаў свой верш, відавочна, не пра тутэйшыя выдмы-дзюны.

У Нідзе выдмы, заціснутыя паміж затокаю й морам, ня сьцелюцца, а цягнуцца ў неба, не бяз посьпеху гуляючы ў горы. Па іхных фантастычных залаціста-пляцістых рэльефах бягуць то вэлюмна-празрыстыя, то атрамантава-фіялетавыя цені аблокаў, ствараючы амаль незямную пэрспэктыву, якая магла б зрабіць паэтычнай музе А.Вялюгіна магутную ін'екцыю натхненьня. Асабліва, калі б ён пабачыў, якім бездагляднa адважным мінэтам аздабляе гэты марсіянскі краявід юная жанчына са сьвежым пэрсыкавым загарам і дасканалай бялюткай папенцыяй з разраду тых, што адзін з герояў Рэмарка, памятаецца, называў цукровымі галоўкамі.

### ВІНО

Ёсьць віны, узгаданыя сонцам, ёсьць — узгаданыя туманам. У нараджэньні літоўскіх натуральных — з размаітых ягадаў і садавіны — сонечны прамень і вогкі подых туману, відаць, адыгрываюць аднолькава істотную ролю. Вядома, пачатак сапраўднага віна заўсёды ў карані вінаграднае лазы. Але літоўскае чорнапарэчкавае выпісвае для сваіх лёхаў каралева Вялікай Брытаніі.

Што мае прапанаваць брытанскаму каралеўскаму дому Беларусь? «Крыжачок»? «Талачынскае»? «Водар мяты»?

У Літве сваіх грамадзянаў пояць, у Беларусі — спойваюць.

### ПОРТ

Панарама Клайпеды, як і любога порту, наводзіць цябе на думкі пра публічныя дамы і ахвяраў грамадзкага тэмпэрамэнту, а таксама пра сябра твайго юнацтва, марака савецкага рыбалоўнага флёту Мішу Гараліка. У адным з працкіх публічных дамоў Міша ў апагеі асалоды пачуў з-за дзьвярэй задушэўнае пытаньне: «Товарищ Горелик, вы здесь?»

### ДЭЛЬФІНЫ

Дэльфіны — жывёліны, якіх ты ненавідзіш мацней за любых іншых, найпачварнейшых і найагіднейшых прадстаўнікоў фаўны. Бо да пітонаў, алігатараў або гіенаў ты нелаяльны абстрактна, а вось з дэльфінам сустрэўся аднойчы ў цалкам натуральных умовах, заплыўшы ў Кактэбелі мэтраў на васемсот у мора.

Тваёй мэтаю быў адзін зь вялізных буёў, за якія не дазвалялася заходзіць цеплаходам. Калі паміж табою і пляскатым памаранчавым балёнам засталася хвіліна шляху, тады і зьявілася, усьцешана падскочыўшы над вадою, гэтая незаслужана апетая ў літаратуры «разумная жывёліна». Праз колькі сэкундаў ты ўжо быў амаль бездапаможны ад жаху, а яшчэ болей ад невыказнае агіды пасьля імгненнага дотыку жывое сьлізкае тарпэды. Дзякаваць Богу, табе хапіла змогі на роспачны лямант і на тое, каб, захлынаючыся вадой, адолець пару дзясяткаў мэтраў да буя. Ужо лежачы на ягонай шырокай, цёплай, як чарэнь, сьпіне, ты ўзгадаў, што ў хваляx брыдка лаяўся, пасылаў дэльфіна на, клікаў маму і проста прасіўся: «Пусьці!»

Чалавека заўсёды цягне паражыць утульнае бясьпечнае водгульле колішняга жаху. Таму наведаеш клайпедзкі дэльфінары і на спэктаклі будзеш нават зрэдку пляскаць у ладкі, асабліва калі «разумная жывёліна» ў нейкім нумары дасьць пудла.

### МОГІЛКІ

Калі хочаш глыбей спасьцігнуць душу гораду, мястэчка ці вёскі, непазьбежна апынаесься на могілках. Вядома, пакуль яшчэ сам, без пахавальнае працэсіі, якая пакрысе фармуецца ў асмужанай далечы пражытых і непражытых гадоў.

Могілкі каля Нідзкае кірхі, нягледзячы на перадзел Эўропы, засталіся пераважна ўва Ўсходняй Прусіі. Нямецкая мова. Нямецкія імёны і прозьвішчы. Часам нямецкая мова, нямецкія імёны, але літоўскія прозьвішчы.

Напрыканцы 50-х, калі апошнія немцы зьехалі ў Vaterland, распачалася пасьпяховая летувізацыя цьвінтару. Табе трапіцца і адзін, здаецца, рэцыдыў — апошні зямны прыстанак чалавека, народжанага ў Нідзе, памерлага ў Мюнхене і пахаванага ў зямлі дзяцінства.

Трывогаю адгукнецца ў табе надмагільле нейкага Міхаіла Максімавіча Сабакіна. Які вецер закінуў расейца Сабакіна пасьля 2-й сусьветнай на Курскую касу? Можа, каб гэтага ня здарылася, помнікаў пры кірсе было б меней?

Нядаўна ты ўжо адчуваў падобную трывогу. Дзе гэта было? У міністэрстве замежных справаў Літвы, калі цябе не заўважылі ў глыбокім фатэлі і ты стаў сьведкам таго, як шафападобныя ахоўнікі, што нязьменна зьвярталіся да цябе і ўсіх астатніх па-літоўску, застаўшыся сам-насам, раптам дружна загаварылі на «великом и могучем».

### ПАЛАНГА

Вялікая параўнаўча зь мініятурнай Нідаю Паланга ў параўнаньні зь ёю ж выглядае досыць правінцыйна.

Сытуацыю ратуе маляўнічы парк з палацам графаў Тышкевічаў. У палацы — музэй бурштыну, відаць, сапраўды найбагацейшы ў сьвеце. Ты папыраеш свой кругагляд, чытаючы подпісы да экспанатаў, адкуль, у прыватнасьці, даведаесься, што навечна закутымі ў бурштын знойдзеныя 683 віды камароў, 396 відаў мух, 36 — прусакоў, адна яшчарка і аніводнага, нават самага дробнага чалавека.

### ВЯРТАНЬНЕ

Калі ты кахаў жанчыну, але яна ўжо належыць іншаму і тваёй анікалі ня будзе, дык лічыш ніжэй свайго гонару захоўваць да яе ранейшых пачуцьці і выхоўваеш у сабе новае стаўленьне. У ім два асноўныя кампанэнты: незабыўныя ўспаміны і сёньняшняя ветлівая адстароненасьць.

Тое самае — зь Вільняй.

Зь Нідаю — інакш.

*Чэрвень. 2000*







Валянціну Акудовічу — 50

# КНУЛЬП

Валянцін Акудовіч не падобны да звычайнага беларускага пісьменьніка.

Доўгі час для мяне гэты арыгінальны творца быў загадкаю. Мне падавалася, што ён іграе ў нейкую штучную філязофскую гульню пад назваю «Мяне няма». Часам ягоныя выказваньні раздражнялі, падаваліся несур'ёзнымі ці нават блюзьнерскімі. І толькі нядаўна я зразумеў, што Акудовіч— клясычны беларускі постмамантык. Заўважце, ён шукае адказы на традыцыйныя пытаньні: пра наканаваньне і прызначэньне чалавека, пра гуманізм, пра лёс нацыянальнай культуры, пра жыцьцё і сьмерць, пра грэх. Новыя адказы, адпаведныя новаму часу.

Ягоны пэсымізм — ад пачуцьця адзіноты, якое абвастрылася напрыканцы стагодзьдзя і новым выпрабаваньнем завярэдзіла душу чалавеку. «Кожны побач — прыкрая недарэчнасьць». Пра гэта добра пісаў Герман Гесэ ў аповесьці «Кнульп» яшчэ ў 1915 годзе: «У кожнага чалавека свая душа, ёй немагчыма зьліцца ні з якой іншай. Двое могуць сустрэць адзін аднаго, сказаць адзін аднаму і быць побач. Але душы іх, як дзьве кветкі, што вырасьлі паасобна, кожная са свайго кораня; яны ня здольныя зблізіцца...» Кнульп — чалавек, які «ўпарта адмаўляецца заняць сваё месца ў разважлівым сьвеце ашчадных гаспадароў» (С.Аверынцаў). Ён складаў цудоўныя вершы, але ніколі іх не занатоўваў, меў сотні ~~сяброў, але не жадаў іх абцяжар~~ваць, меў безьліч шанцаў зрабіць кар'еру і ўладкавацца ў жыцьці, але ўпарта выбіраў дарогу. Вандраваў ад гарадка да гарадка, сьпяваў песьні, жартаваў, разважаў пра жыцьцё і чалавечае прызначэньне. Перад сьмерцю Госпад паведаміў Кнульпу (прынамсі, так таму прытрызьнілася), што «ў імя маё ты вандраваў і абуджаў у аселых людзях трывожную тугу па свабодзе».

Акудовіч не верыць у Бога (пра што неаднойчы пісьмова прызнаваўся). Але ён усё адно трошкі Кнульп. Ён імкнецца вызбавіць чалавека з путаў «агульных месцаў» і «аблуды традыцыі».

Пэсымізм Валянціна Акудовіча роднасны пэсымізму Васіля Быкава.

Чамусьці ніхто не заўважыў, што Акудовіч у сваёй праграмнай рэчы «Хто я? альбо Мяне няма, не было, ня будзе» руйнуе эўрапейскі экзыстэнцыялізм. Ад гэтага нядаўна моднага ў Беларусі філязофскага вучэньня Акудовіч не пакідае каменя на камені. Пастуляты Гайдэгера, Сартра, Камю яму падаюцца бясплоднымі. Бо каму яны адрасаваныя? «...Недарэчна пытаць пра таго, каго няма — **хто ён?**. Трэба пакінуць гэтую вярэду назаўсёды і болей ня думаць пра адказ на пытаньне **хто я?**, а думаць пра іншае пытаньне?» І ячшэ — рэфрэн, як прысуд:

«Я-чалавек ня можа сам зь сябе аб'явіцца.

Я-чалавек ня можа існаваць сам у сабе.

Я-чалавек ня можа быць сам сабой.

Я-чалавека няма».

Што гэта за новыя пытаньні, пра якія мы мусілі б сёньня думаць? Акудовіч пакуль пра іх маўчыць.

Кнульп — гэта эўрапейскі гіпі XIX ст. Гэта пратэст (бунт) супраць сьвету. Гэта бясконцая дарога да недасяжнага. Таму так любяць Акудовіча «непрычасаныя» маладыя.

Кнульп — гэта эўрапейскі Сідгарта. Герман Гесэ добра ведаў Азію, вывучаў будызм. Уся творчасьць аўтара «Гульні шкляных пэрлаў» (узгадаем, што гэты раман прысьвечаны «Пілігрымам у краіну Ўсходу») мела на сабе вялікі ўплыў усходняй філязофіі.

Адмаўляючы я-чалавека, ці не прадбачыць Акудовіч набліжэньне Вялікай Эры Ўсходу?

Герман Гесэ з-за сваёй творчасьці меў вялікія праблемы на радзіме, быў вымушаны эміграваць у Швэйцарыю. Акудовічу эміграваць няма куды.

**Алесь Аркуш**

# ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ПАПУЛЯРНЫХ ПАМЫЛАК

СЫМБАЛІ

### ЧОРНЫ СЬЦЯГ – ЗНАК ПІРАТАЎ

Піраты, марскія рабаўнікі, флібусьц'еры, карсары – Бог ведае як яшчэ зваліся гэтыя рыцары ўдачы – не выкарыстоўвалі чорных сьцягоў для абазначэньня свіх караблёў. Чорны сьцяг існаваў адно ў фантазіі аўтараў прыгодніцкіх раманаў на марскую тэматыку. Морган, Оланэз, Флінт, Кід ды Барталямэй Партугальскі ў выбары сваіх сымбаляў праяўлялі лепшы густ. Над іхнімі камандамі лунаці палотнішчы з вывамі жывёлаў, у тым ліку авечкі, сьвятых патронаў караблёў і геральдычных істотаў. Чорны прапар з чэрапам і косткамі быў прыдуманы толькі ў XIX ст., калі пірацкая слава мінула, і злачыннае рамяство даўно перастала быць залатым дном. Дарэчы, масавае пірацтва адрадзілася было пад час першае



сусьветнае вайны, калі адмысловыя нямецкія караблі пад нямецкім жа трыкалёрам тэрарызавалі гандлёвы флёт па ўсім сьвеце.

### РАГАТЫЯ ШАЛОМЫ – АДМЕТНАСЬЦЬ ГЕРМАНЦАЎ

Германцы, нарманы, вікінгі ніколі не ўпрыгожвалі сваіх шаломаў рогамі. Рогаў няма ні на адным тагачасным малюнку, няма на вядомым дыване з Баё – габэлене даўжынёю 70 мэтраў, дзе ў сучаснай манеры, накшталт коміксу, выяўлены паход Вільгельма Заваёўніка ў Ангельшчыну ды ягоная перамога ў 1066 годзе ля Гастынгсу. Тыповым нарманскім зьяўляецца вядомы нам з «Пагоні» (адно ня гэткі востры) просты ды функцыянальны шалом, а ягоныя дэкаратыўныя элемэн[illegible]ды пласьціна для аховы пераносься, зьявіліся ў пазьнейшым сярэднявеччы. Рогі на шаломах германцаў былі прыдуманыя ў сярэдзіне XIX ст. нямецкімі патрыятычна настроенымі студэнтамі, якія тады ладзілі адмысловыя касьцюмаваныя імпрэзы ў адноўленых паводле летапісных зьвестак строях. Малады гісторыкі, мабыць, нясьлушна патрактавалі выраз «крылатыя шапкі» – так на схіле існаваньня Заходнерымскай імпэрыі называлі нарманскіх вершнікаў, бо тыя прымацоўвалі сабе на шаломы птушыныя пёры.



### ДЗІКІ ЗАХАД – ГЭТА КАЎБОІ

Амэрыканскія пагоншчыкі быдла сталіся ахвярамі бясконцага шэрагу памылковых штампаў, распаўсюджаных перадусім нямым кінэматографам у дваццатых гадах нашага стагодзьдзя. Насамрэч, героі вэстэрнаў у замшавых штанах, капелюшах ды з рэвальвэрамі па бакох ніколі не былі галоўным саслоўем маладое Амэрыкі ці Дзікага Захаду. Каўбоі зьявіліся ў шасьцідзясятых гадах XIX ст. на запатрабаваньне тагачаснай эканомікі й цалкам зьніклі як зьява ўжо праз дваццаць гадоў з разьвіцьцём чыгункі. Іхнай функцыяй на працягу ўсяе кароткае гісторыі існаваньня быў перагон буйной рагатай жывёлы з Тэхасу ў пайўднёва-заходнія штаты. Дарога доўжылася год і болей, таму сюжэт пра Сьмярдзючку Джо – гразу мястэчка й заўсёднiка салуна – папросту ня мае сэнсу; Джо ўвесь час быў у дарозе, а йначай – ён не каўбой. Дарэчы, каўбояў было ўсяго ня болей за дваццаць тысячаў (як гакеістаў у Беларусі), а большая частка зь іх – нэгры ды індзейцы, бо на гэткую цяжкую працу за 6 даляраў у тыдзень ня кожны белы йшоў.



### СОНЦА – КРЫНІЦА ЖЫЦЬЦЯ

У далёкай будучыні Сонца паступова згасьне, Зямля ператворыцца ў лядзяную пустыню... Яшчэ дваццаць гадоў таму гэта было пастулятам астраноміі, хаця й невясёлым, але бясспрэчным. Адылі аказалася, што гэта памылка, адна з памылак здаровага сялянскага сэнсу, які параўноўвае гарэньне тарфянішча і ядравую рэакцыю распаду вадароду (менавіта гэткую прыроду Сонца ўважае за праўдзівую сучасная навука). Працэс ператварэньня вадароду ў гелі адбываецца на Сонцы зь нязьменнай хуткасьцю. Цяпер суадносіны Н да Не прыкладна 95% да 4% (1% – цяжкія элемэнты). Вядомыя сп. Шушкевічу раўнаньні ядравых працэсаў прадказваюць Сонцу яшчэ сама мала 50 мільярдаў гадоў жыцьця, у дзесяць разоў болей, чым век любога вядомага цьвёрдага рэчыва на Зямлі.



Але няма прычынаў радавацца за нашчадкаў. Як той казаў, ня росна, дык млосна. Задоўга да згасу сьвяціла, тады, калі вадароду ў ім стане хаця б упяцёра меней чым гелія, зямныя акіяны... выпарацца, атмасфэра згарыць, а скалы паплавяцца, бо зь цягам часу крыніца жыцьця сьвеціць усё ярчэй.

### МЕСЯЦ – НАЙБЛІЖШЫ КАСЬМІЧНЫ СУСЕД

Месяц – ня самае блізкае да Зямлі касьмічнае цела, хаця да яго «ўсяго толькі» 356 000 км. Рухаючыся па моцна выцягнутай арбіце, на цалыя дзьве тысячы кілямэтраў шчыльней да нас пэрыядычна набліжаецца малая плянэта Гермэс. Апошні раз гэтак было 30 кастрычніка 1937 году, якраз у разгар сталінскіх рэпрэсіяў; ацалелыя ад перасьледу навукоўцы пасьлелі тады нават сфатаграфаваць небясьпечны аб'ект на адлегласьці 354 000 км. Гермэс – зусім не гігант, 700 мэтраў у дыямэтры, аднак мы павінныя быць удзячныя Богу й законам нябёснай механікі за тое, што паміж жалезным карлікам ды чалавечым домам не на якуюсь тысячу кілямэтраў меней. Бо тады рызыка падзеньня камлыгі на шмат мільёнаў тонаў вагою павялічылася б у дзясяткі разоў. У выпадку катастрофы жудасны выбух зьнішчыў бы ўсё на плошчы 50 000 км², то бок тэрыторыі, роўнай чвэрці Беларусі. А ўзьняты вецер пабурыў бы дамы й паваліў лес на тысячы кілямэтраў ад эпіцэнтру. Дарэчы, як сьцьвярджаюць астраномы, Месяц ня раз прымаў удары аграмадных мэтэарытаў, «прызначаных» для Зямлі.



Вадзім Карцаў,

трактоўны пераклад паводле Людвіга Соўчака

---

Віншую
**Савіцкага Віктара**
з Днём народзінаў!

*Спакойнага шчасьця*
*Ня зычу нікому:*
*Навошта грымотам*
*Маланка бяз грому,*
*Навошта ручай*
*Безь пякучае смагі,*
*Халодная ўвага*
*Ня вартая ўвагі,*
*Жаданьні, што прагныя*
*Крылы згарнулі,*
*Зязюля бязь лесу*
*І лес безь зязюлі?*

Вольга

---

**Якасная апрацоўка** Вашае карэспандэнцыі ды папераў. Разьмяшчэньне Вашае рэклямы ды абвестак у мясцовым друку, радыё ды тэлевізіі.
*225710, Пінск-4, д/з на студ. білет № 76-П.*

---

**Увага!** Ахвотныя атрымаць інфармацыю пра адпачынак за мяжой, тэлефануйце:
**(017) 222-85-89, з 15-й да 20-й.**
*Яўген*

---

*Шукаю інфармацыі пра дзейнасьць сучасных паганскіх грамадаў, рухаў ды зьвязаў на тэрыторыі былога СССР. Жыве продкава вера! Жыве Белая Русь!*

*225710, Пінск-1, а/с 31*

---

**Тэрмінова набуду або вазьму ў карыстаньне расейска-беларускі юрыдычны слоўнік.**
*Т.. 220-28-95, з 9-й да 18-й Надзея*

---

*Той, Хто ўскрасіў Госпада Ісуса, ускрасіць праз Ісуса і нас. 2 Карынц. 4:14*

**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
Штонядзелю **ў Менску** а 17-й гадзіне:
*вул. Любімава 21-56,*
*тэл.: 279-71-31, 270-89-87, 226-42-63.*
Штонядзелю **ў Асіповічах** аб 11-й гадзіне:
*вул. Леніна 40, тэл.: 20-840.*

---

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**
*-да 20 словаў (тэкставы модуль)— 90 руб.,*
*-звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 114 руб..*
*-па-мастацку аформленая аб'ява – 54 руб. за 1 кв. см,*
*-па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 72 руб. за 1 кв см*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г Менску, код 763.*
На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

---

Шчырыя віншаваньні
**Ігару Андрэйчанку**
з нагоды дня нараджэньня!
Мы яшчэ пазмагаемся!

*Сяргей*

---

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Дашачка, не разгубляйся**, ты ўсё роўна самая лепшая!!! Сяброўка Ганна

**Vital!** Ja ciabie kachaju, ja pa tabie sumuju, ja ciabie čakaju. Nasta

**Мікалай!** З днём народзінаў! Будзь аптымістам — рай такіх жа дзетак, як ты! Маленькая Вар'ятка, Валера

**Мікалай!** Віншуем цябе з днём народзінаў. Шчасьця, каханьня, здароўя. Твае сябры

### відэа, музыка

**Рыхтуюцца пераклады фільмаў** «Агнём і мячом», «Пан Тадэвуш», «Матрыца», «Бэтховэн», «Прыгажуня» («Pretty Woman»), мульфільму «Кароль-Леў». Будучыя пакупнікі, акажыцеся! 220107, а/с 150. E-mail: belvidea@hotmail.com. Т.: (017) 240-78-01

**«Адважнае сэрца», «Ісус»** ды іншае відэа пабеларуску. Бясплатны катальёг (дашлеце капэрту+купон на адрас: 220107, а/с 150)

### ідэі

Я веры Хрыстовай, царквы ліцьвінскай! Алесь

З ласкі ўсяміласьцівага Бога абаронім нашу веру, традыцыі, мову! Алесь

Лічыце сябе мёртвым для грэху, а жывым дзеля Бога ў Хрысьце Ісусе. Рым. 6:11

Бог цябе любіць, нягледзячы ні на што!

Усе на Кангрэс і Усебеларускі Зьезд! Падтрымайма беларускі нацыянальны рух! Вясна-2000

Усё што ні робіце, ад душы рабіце, як Богу, а ня людзям. Калас. 3:23

Беларуская форма — хрысьціянскі зьмест, у гэтым сутнасьць Адраджэньня. Нацыянальная ідэя

### кантакты

Браты! Тэрмінова патрабуецца інфармацыйная дапамога ад сяброў БПС, Белага Легіёну, Краю. Вельмі чакаем. Град. 212040, Магілёў, пр.Дзімітрава 43-49

Запрашаю да знаёмства і ліставаньня сур'ёзных маладых людзёў, якія цікавяцца паганскай мітолёгіяй ды эзатэрычнымі ведамі нашых Продкаў. 220050, Менск, а/с 342

**Два сябры шукаюць** для сустрэчаў прыхільніцу шведзкай формы ўзаемін. 220050, Менск-50, п/п МС 0095544

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў сярод вайскоўцаў ці міліцыянтаў. А/с 78, 220141, Менск

**Буду рады знаёмству** з вайскоўцамі бяз комплексаў. А/с 86, 220141, Менск

### кнігі, пэрыёдыкі

Студэнт з Чэхіі **набудзе Беларускую Энцыклапэдыю**. Жыве Беларусь! Т.: 284-52-22

**Беларускую Біблію, Эвангельле**, духоўную літаратуру набуду. Т.: 226-42-63, Сяржук

**Набуду: Я.Купала — 1, 2, 4 тамы**, выд-ва «Мастацкая літаратура». Т.: 259-55-40

**«Гісторыя Беларусі: пытаньні і адказы»**, Менск, 1993. Прадам. Хутчэй трапіш у ВНУ! Т.: 254-77-59, Аляксей

У краме «Ноты» (вул. Леніна, 4) зьявілася **кніга пра беларусаў у Амэрыцы**. Т.: 227-51-16

**Ірвінг Стоўн (раман пра Мікеланджэля)**, ІІ тамы. Прадам. Т.: 254-77-59, Аляксей

**Максім Багдановіч. Поўны збор твораў**. Прадам. Т.: 254-77-59, Аляксей

Прадам двухтамовік **«Зьнесеныя ветрам» Маргарэт Мітчэл**. Т.: 254-77-59, Аляксей

**Леанід Лыч, Уладзімер Навіцкі «Гісторыя культуры Беларусі»**. Прадам Т.: 254-77-59, Аляксей

**Кнігу рэкордаў Гінэса прадам**. Т.: 254-77-59, Аляксей

Можна **замовіць «Вялікалітоўскі катэхізыс»**. Ад Вас — капэрта са зв/а + купон б/а. А/с 124, 246012, Гомель

Замаўляце нацыянал-кансэрватыўную **газэту «Слова Нацыі»**. Мы пішам толькі праўду! 220086, Менск, а/с 121

**Куплю кнігі:** У.Караткевіч — т.т. 6, 8, 9; Я.Купала — т.т. 1, 2 (1997); першыя 4 кнігі з сэр. «Беларускі кнігазбор». Т.: 258-43-54

Містыка Зямлі — гукі выструньвальнага рогу з-пад дзірвану спляжанага нерушу. 220086, Менск, а/с 121 — кансэрватыўна-рэвалюцыйная газэта **«Слова нацыі»**

**Набуду** першыя два тамы збору твораў Янкі Купалы, тамы «Беларускага кнігазбору»: Я.Чачот, М.Багдановіч, Беларускія летапісы і хронікі; першы том «Археалёгіі Беларусі». Т.: 250-40-62

### купоны

**Куплю купоны б/а**: «НН» — 10 р., «Пагоні» — 10 р., «Из рук в руки» — 20 р. Ад Вас — аплочаная капэрта са зв/а ды колькасьць прапановы. А/с 9, Гомель-8

### праца

**Шукаю працы**. 25 год, в/а. Т.: 254-77-59, Аляксей

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Інфармацыя пра вакансіі за мяжой**, расейскіх гандляроў кнігамі, касмэтыкай, тытунём. Sentinelo, а/с 9, Гомель-8

### прыймач

**Радыёпрыймач ВЭФ-214 амаль новы**, ровар «Старт» б/у танна прадам. Т.: 226-42-63

### рэстаўрацыя

Беларус, ты маеш шчасьлівую магчымасьць далучыцца да рэстаўрацыі **Беларускага Праваслаўнага Храму ў в. Сёмкаў Гарадок**. Жыве Беларусь! Т.: 270-62-39 (Менск)

---



**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Намесьнік галоўнага рэдактара Андрэй Дынько. Рэдактар аддзела інфармацыі Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Віктар Корзун. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3744. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18.06.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 3046. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск Бабруйская 19/36